


# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

21 мая 2021 года №21 (1360)

18+



## У цэнтры міжнароднага скандалу – выцінанка маладзечанкі



старонка 8

**16 мая ў Маямі праходзіў конкурс «Міс Сусвету». Украіну прадстаўляла Лізавета Ястрэмская. Яе ўбор «Душа-Выцінанка» прэзентавалі як украінскі нацыянальны строй.**

**А між тым, частка ўбору – твор прадстаўніцы маладзечанскай школы выцінанкі, мастачкі, народнага майстра, выкладчыцы Маладзечанскага музкаледжа Лізаветы Чырвонцавай.**

Фота world360news.com.

ISSN 1991–7155

Адсканіуйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by

# «Дапамагаем, бо можам і ўмеем»

## У касцёле ў Будславе працавалі прамысловыя альпіністы-валанцёры

МЯДЗЕЛ

**Раніцай 11 мая здарыўся пажар у касцёле ў Будславе. А ўжо 12 мая аб’явілі пра тое, што шукаюць валанцёраў для таго, каб ліквідаваць наступствы, і пра адкрыццё рахункаў на аднаўленне храма. Людзі адгукнуліся. Працу валанцёраў каардынуе ўраджэнец Будслава, экскурсавод і актывіст Яўген Апанасевіч.**

### Што зрабілі на сёння

Па словах Яўгена, 13 мая атрымалі дазвол на разбор рэшткаў абгарэлага даха. У гэты ж дзень тут пачалі працаваць першыя альпіністы-валанцёры. Больш актыўна працавалі 14 і 15 мая. Прыбралі тэрыторыю вакол касцёла, вугаль і абгарэлыя часткі ў будынку, прасушылі алтары, лаўкі і арган, паставілі дадатковую агароджу вакол храма. Спецыялісты агледзелі купал і арачныя канструкцыі, у касцёле паставілі прылады, якія кантралююць вільгаць. На сёння працы яшчэ шмат.

На 18 мая на аднаўленне касцёла сабралі 408 961 рубель.

### Прамысловы альпініст: Прыехаў, бо беларус беларусу беларус

Мы звязаліся з жыхаром Мінска **Канстанцінам Каралём**, які 14 і 15 мая працаваў на даху будслаўскага касцёла з групай прамысловых альпіністаў.

– Пра тое, што здарыўся пажар у касцёле, я даведаўся з інтэрнэта, а ў сацсетках прачытаў, што патрэбная дапамога прамысловых альпіністаў-валанцёраў. Звязаўся з каардынатарам Яўгенам Апанасевічам і дамовіліся. Скаардынаваўся з калегамі. З Мінска нас было трое – тых, хто меў вольны час і не заікаўся пра грошы, – расказвае Косця.

Разам з **Яўгенам Кудзеркам** і **Аляксеем Акіншавым** мой суразмоўца працаваў на даху касцёла 14 і 15 мая. Прамысловыя альпіністы прыбіралі абгарэлыя рэшткі кроквеннай сістэмы, прыставанні, якія трымалі дах, і скідвалі ўсё на зямлю. Праз нейкі час мужчыны вернуцца сюды зноў. Будуць рабіць навес, каб у будынак касцёла не трапляла вада.

У падобных умовах альпіністы працавалі ўпершыню.

– Брудная працы ў нас заўсёды хапае, – дзеліцца Косця. – Але каб разбіраць дах пасля пажару, такога яшчэ не было. Як заўсёды, стараліся працаваць вельмі акуратна, з выкананнем усіх мер бяспекі.

На пытанне, чаму Косця і яго калегі вырашылі паваланцёрыць у Будславе, адказ такі:

– Прыехаў, бо магу ўдзяліць гэтаму свой час, бо ўмею, бо лічу, што дапамагаць трэба, асабліва ў сённяшніх няпростых умовах. Прыехаў таму, што беларус беларусу беларус. У мяне мама каталічка, мяне самога таксама хрысцілі ў каталіцызме. І я рады, што сёння мая мама можа ганарыцца мной.



Злева направа: Яўген Кудзерка, Аляксей Акіншаў, Канстанцін Кароль падчас працы на даху абгарэлага касцёла ў Будславе.

Фота забяспечанае Канстанцінам КАРАЛЁМ.

### Нягледзячы на пажар, традыцыйныя ўрачыстасці ў ліпені адбудуцца

Нягледзячы на тое, што эксплуатацыя пацярпелага ад пажару санктуарыя ў Будславе цалкам забароненая, урачыстасці ў гонар апякункі Беларусі Маці Божай Будслаўскай пройдуць без змен – 2 і 3 ліпеня.

14 красавіка на 80-м пленарным пасяджэнні Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі былі вызначаныя асноўныя асаблівасці сёлетняга Будслаўскага фэсту, якія яшчэ будуць удакладняцца ў сувязі з наступствамі пажару. Урачыстасці плануецца правесці ў традыцыйным фармаце, але з захаваннем належных санітарных прадпісанняў і без арганізаваных пілігрымак. Пры гэтым усе ахвотныя могуць ладзіць пілігрымкі ў індывідуальным парадку. Так было ўжо ў мінулым годзе, калі ўпершыню ў новай гісторыі Будслаўскага фэсту з-за складанай эпідэміялагічнай сітуацыі ў Нацыянальны санктуарый не ішлі вялікія арганізаваныя групы пілігрымаў. Дакладная праграма сёлетніх урачыстасцяў у гонар Маці Божай Будслаўскай будзе ў бліжэйшы час распрацаваная і апублікаваная.

Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

---

## У СШ №5 прызначылі намесніка дырэктара

МАЛАДЗЕЧНА

**Васіль Мікалаевіч Капуцкі** прыняты на пасаду намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце маладзечанскай СШ №5.

Васіль Мікалаевіч скончыў БДУ па спецыяльнасці «Гісторыя», кар’еру звязаў не з педагагічнай дзейнасцю. Раней працаваў намеснікам дырэктара па ідэалогіі на заводзе парашковай металургіі, які судзіўся з «Рэгіянальнай газетай» з-за фота мыла на вяроўцы. Той суд зімой 2020 года завяршыўся прымірэннем бакоў.

Пасада намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце ў школе была вакантная ад пачатку навучальнага года.

Нагадаем, дырэктарам СШ №5 у мінулым месяцы прызначылі **Тацццяну Курыловіч**, якая да гэтага была намеснікам дырэктара ў СШ №14. Курыловіч прызначылі на пасаду пасля звальнення **Яўгена Макарэвіча**, які быў старшынёй выбарчага ўчастка, дзе афіцыйна перамагла **Святлана Ціханоўская**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## «Рэгіянальная газета» – у тройцы лепшых медыя па стандартах у сакавіку

Паводле маніторынгу Media IQ «Рэгіянальная газета» ўвайшла ў тройку лепшых сярод рэгіянальных СМІ Беларусі па журналісцкіх стандартах у сакавіку.

Media IQ тры разы ў месяц маніторыць дзесяць рэгіянальных анлайн-выданняў: «Вечерний Бобруйск», «Моцныя навіны», «Вячэрні Брэст», Intex-press, «Рэгіянальная газета», «Медыя-Палессе», Hrodna.life, «Віцебскія весткі», «Магілёўскія ведамасці» і «Інфа-Кур’ер».

Кожны будны дзень у кожнага медыя маніторацць па тры грамадска значныя навіны. Маніторацць такія паказчыкі, як дакладнасць, аддзяленне меркаванняў ад фактаў, баланс меркаванняў, паўната інфармацыі, і фіксуюць прапаганду і маніпуляцыі ў навінах.

Сёлета ў сакавіку «Рэгіянальная газета» з агульным балам 4,84 увайшла з тройку лепшых, саступіўшы гродзенскаму парталу Hrodna.life (4,98) і баранавіцкаму Intex-press (4.89).

**Паводле mediaiq.by.**

## 29 мая і 10 чэрвеня абмяжуюць продаж алкаголю

ВІЛЕЙКА

У Вілейцы 29 мая і 10 чэрвеня не будуць прадаваць алкаголь. Пра гэта паведамляюць у Вілейскім райвыканкаме.

Гэта рашэнне Вілейскага раённага выканаўчага камітэта №690 ад 12 мая 2021 года.

На падставе пункта 5 артыкула 11 Закона Рэспублікі Беларусь ад 27 жніўня 2008 года №429-З «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці і абароту алкагольнай, нехарчовай спіртаўтрымальнай прадукцыі і нехарчовага этылавага спірту» Вілейскі райвыканкам вырашыў абмежаваць у Вілейскім раёне продаж алкагольных напояў, за выключэннем рознічнага гандлю на аб’ектах грамадскага харчавання ў разліў, ад 00:00 да 24:00:

- 29 мая у сувязі з правядзеннем мерапрыемстваў, накіраваных на папулярызацыю здаровага ладу жыцця, прафілактыку п’янства і алкагалізму, барацьбу з імі;
- 10 чэрвеня ў сувязі з правядзеннем выпускных вечароў.

**Аддзел інфармацыі.**



По словах выратавальнікаў, пляжы ўжо падрыхтаваныя да купальнага сезона.

# На якіх пляжах сёлета можна купацца

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ
МАЛАДЗЕЧНА

**Стала вядома, на якіх пляжах сёлета можна адпачываць.**

### Мядзел

У Мядзельскай выратавальнай станцыі расказалі, што спіс пляжаў амаль не змяніўся з мінулага года. Купацца можна на пляжах санаторыяў:

– «Нарачанскі бераг»
– «Нарач»
– «Нарачанка» (два пляжы)
– «Спадарожнік»
– «Сосны»
– «Жураўачка».

А таксама на пляжы дзіцячага цэнтра «Зубраня» і на гарадскім у Мядзеле.

Сёлета ў спіс дадалося адно новае месца адпачынку – гэта пляж аграсядзібы «Наносы». Ва ўсіх пералічаных месцах выратавальнікі добраўпарадкавалі берагі і абследавалі дно. Пляжы да сезона гатовыя.

Дарэчы, да новага сезона мядзельскія выратавальнікі атрымалі катар «Беркут». Па словах начальніка станцыі **Дзмітрыя Дамшэля**, гэты катар самы магутны сярод тых, што выкарыстоўваюцца на выратавальных станцыях Міншчыны. Цяпер ён праходзіць абкатку.

### Маладзечна

На Маладзечаншчыне месцаў для купання чатыры. Гэта акваторыі рэчак Удра (каля вёскі Удранка), Рыбчанка і Беразіна (у межах санаторыя «Сасновы Бор» і аздараўленчага цэнтра «Алеся»), а таксама на возеры ў Беразінскім. У межах гэтых зон будзе дзяжурыць міліцыя з прадстаўнікамі МНС і Асвод, каб забяспечыць парадак і прафілактыку правапарушэнняў, расказалі ў РАУС Маладзечна. Да 1 мая ўсе названыя пляжы падрыхтавалі да купальнага сезона.

### Вілейка

У Вілейскім райвыканкаме паведамілі, што згодна з яго рашэннем ад №486 ад 5 красавіка, на тэрыторыі Вілейскага раёна вызначана сем месцаў масавага адпачынку грамадзян на вясенне-летні перыяд 2021 года:

– гарадскі пляж на Вілейскім вадасховішчы;
– пляж «Сонечны» на Віліі;
– сажалка ў Асіпавічах;
– урочышча «Дубаўка»
– Вілянін хутар
– гарадскі і Ніжні паркі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Галоўны санітарны доктар расказаў, колькі каштуе вакцына для аднаго беларуса

**Сабекошт вакцыны «Спутник V» арыенціровачна 52 рублі, распавёў намеснік міністра аховы здароўя, галоўны дзяржаўны санітарны доктар Аляксандр Тарасенка.**

«Арыенціровачна 52 рублі. Гэта два кампаненты, – сказаў Аляксандр Тарасенка, адказваючы на пытанне пра сабекошт вакцыны. – Можам памнажаць на 5,5 мільёна насельніцтва, якое плануем прышчапіць да канца года, і атрымаецца ўся сума.

Гэта толькі сабекошт вакцыны, не ўключаючы расходныя матэрыялы».

«Вакцына Pfizer першапачаткова прапаноўвалася па цане каля 80 долараў. Я думаю, не кожны б аддаў такую суму за вакцыну, а для дзяржавы гэта былі б пэўныя выдаткі», – сказаў Аляксандр Тарасенка.

Міністэрства аховы здароўя ставіць задачу вакцынаваць не менш за 60% насельніцтва краіны да канца года.

**Паводле tvr.by.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**160**

столькі музеяў працуе сёння ў Беларусі

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 13.05 | 20.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 2.5309 | **2.5161** |
| **Еўра** | 3.0705 | **3.0758** |
| **Злоты, 10** | 6.7617 | **6.7846** |
| **Расійскі рубель, 100** | 3.4180 | **3.4146** |
| **Грыўня, 100** | 9.1495 | **9.1724** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **13.05** | **20.05** |
| **Еўра** | 3.0300/3.1200 | **3.0200/3.1000** |
| **Долар ЗША** | 2.5000/2.5700 | **2.4800/2.5500** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **12.05** | **19.05** |
| | Цана, руб. | |
| **Кілбаса «Мядовая», 1 кг** | 23,99 | **24,93** |
| **Кураня-бройлер, 1 кг** | 4,25 | **4,40** |
| **Сасіскі, 1 кг** | 7,87 | **7,90** |
| **Свініна (выразка), 1 кг** | 9,00 | **9,00** |
| **Мінтай свежамар., 1 кг** | 4,50 | **4,50** |
| **Селядзец, 1 кг** | 6,90 | **6,80** |
| **Скумбрыя х/в, 1 кг** | 18,90 | **18,90** |
| **Грэчка, 0,8 кг** | 2,30 | **2,30** |
| **Рыс, 0,8 кг** | 2,40 | **2,40** |
| **Алей, 1 л** | 4,90 | **4,90** |
| **Кава «Nescafe», 100 г** | 4,80 | **4,80** |
| **Маянэз, 400 г** | 2,40 | **2,60** |
| **Соус «Мінскі», 0,5 л** | 1,80 | **1,80** |
| **Шпроты, бляшанка, 160 г** | 2,20 | **2,00** |
| **Яйкі курыныя, 1 дз.** | 2,60 | **2,40** |
| **Агуркі, 1 кг** | 4,90 | **2,40** |
| **Баклажаны, 1 кг** | 5,90 | **6,90** |
| **Бульба, 1 кг** | 0,90 | **2,80** маладая |
| **Буракі, 1 кг** | 1,00 | **1,20** |
| **Капуста маладая, 1 кг** | 2,00 | **1,50** |
| **Капуста пекінская, 1 кг** | 2,50 | **3,00** |
| **Морква, 1 кг** | 1,20 | **1,80** |
| **Памідоры, 1 кг** | 4,50 | **4,90** |
| **Перац, 1 кг** | 6,50 | **6,90** |
| **Радыс, 1 кг** | 6,50 | **2,50** |
| **Цыбуля рэпчатая, 1 кг** | 1,20 | **1,20** |
| **Часнок, 1 кг** | 6,50 | **8,50** |
| **Шампіньёны, 1 кг** | 6,50 | **6,30** |
| **Авакада, 1 кг** | – | **18,00** |
| **Апельсіны, 1 кг** | 3,90 | **2,90** |
| **Бананы, 1 кг** | 3,70 | **3,80** |
| **Вінаград, 1 кг** | 7,90 | **9,50** |
| **Грушы, 1 кг** | 3,50 | **5,50** |
| **Клубніцы, 1 кг** | 14,00 | **15,00** |
| **Лімон, 1 кг** | 5,50 | **4,90** |
| **Мандарыны, 1 кг** | 4,50 | **4,50** |
| **Нектарыны, 1 кг** | – | **11,00** |
| **Чарэшні, 1 кг** | – | **23,00** |
| **Яблыкі, 1 кг** | 2,30 | **2,30** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако, 1,5 л** | 1,70 | **1,70** |
| **Масла, 1 кг** | 18,00 | **18,00** |
| **Сала, 1 кг** | 13,00 | **13,00** |
| **Сыр, 1 кг** | 14,00 | **14,00** |
| **Тварог, 1 кг** | 8,00 | **8,00** |
| **Яйкі, 1 дзясятак** | 4,00 | **4,00** |

## Чацвёра пасажыраў пацярпелі ў аварыі

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

ДТЗ адбылося 10 мая каля паловы шостай вечара на 85-м кіламетры аўтадарогі Р28 Мінск-Маладзечна-Нарач, каля вёскі Дамашова Вілейскага раёна.

45-гадовы жыхар Вілейкі на «Рэно-Меган» перастройваўся на крайнюю правую паласу. Ён не саступіў дарогу машыне «Опель-Вектра», якой кіраваў 31-гадовы маладзечанец. У выніку кіроўца «Опеля» змяніў кірунак руху, з'ехаў на ўзбочыну. Пасля выехаў за межы праезнай часткі, дзе ўрэзаўся ў дрэва.

Кіроўца «Опеля» і трое яго пасажыраў 39, 33 і 23 гадоў, жыхары Маладзечна, з траўмамі шпіталізаваныя.

**Паводле БелТА.**

## Мужчына незаконна пазбавіў волі былую жонку

АШМЯНЫ

Жыхар Ашмянскага раёна незаконна пазбавіў волі сваю былую жонку.

Аддзел інфармацыі Упраўлення ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама паведаміў, што ноччу 35-гадовы жыхар Ашмянскага раёна дачакаўся на вуліцы сваю былую жонку. Размовы не выйшла, таму мужчына сілай запхнуў жанчыну ў аўтамабіль, вывез за некалькі дзясяткаў кіламетраў у суседнюю вёску.

Жанчына не атрымала цялесных пашкоджанняў. Пацярпелая звярнулася па дапамогу ў міліцыю, дзейнні падазраванага ацэньваюць з прававога пункту гледжання.

Раней мужчына неаднаразова прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за крадзяжы і хуліганства.

**Паводле УУС Гродна.**

## Знайшлі забітага самца казулі з агнястрэльным раненнем

МЯДЗЕЛ
ВІЛЕЙКА

8 мая каля дзевяці гадзін раніцы група Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету абследавала паляўнічыя ўгоддзі на Вілейшчыне. Каля вёскі Рабунь, у лесе, знайшлі свежую тушу самца казулі еўрапейскай з агнястрэльным раненнем, расказаў старшы дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага асяроддзя **Сяргей Радзюль**.

Прыкладна за 40 метраў ад месца здарэння затрымалі грамадзяніна Н., жыхара Мінска, які паляваў на вадаплаўную дзічыну. На месца здарэння выклікалі следча-аператыўную групу Вілейскага РАУС і РАСК.

Падчас следства ў мужчыны канфіскавалі ружжо МЦ-21/12, сто паляўнічых патронаў са шротам, мабільны тэлефон «IPhone 6». На аўтамабіль «Таёта» наклалі арышт.

Тушу казулі перадалі спецыялістам. Шкода, прычыненая навакольнаму асяроддзю, склала 120 базавых велічынь – 3480 рублёў. Вілейскія следчыя ўзбудзілі крымінальную справу. Вядзецца следства.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## «Форд-Транзіт» не прапусціў аўтобус

ВІЛЕЙКА

18 мая ў 14:10 здарылася аварыя на вуліцы Чапаева ў Вілейцы. Сутыкнуліся аўтобус «МАЗ» і «Форд-Транзіт», расказаў старшы дзяржаўтаінспектар Вілейскай ДАІ **Генадзь Сяськоў**.

Кіроўца, 69-гадовы жыхар Вілейшчыны, ехаў на аўтамабілі «Форд-Транзіт» па другараднай дарозе па вуліцы Чапаева. На скрыжаванні нераўназначных дарог ён не саступіў дарогу аўтобусу «МАЗ», які ехаў па вуліцы 1 Мая.

Абодва кіроўцы былі цвярозыя. Яны не пацярпелі. Кіроўцу аўтамабіля «Форд-Транзіт» прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У бальніцы ад нажавога ранення загінуў пацыент

ВАЛОЖЫН

Трагедыя здарылася ў бальніцы ноччу з 18 на 19 мая. Пацыент, які праходзіў тут курс лячэння, загінуў ад нажавога ранення проста ў палаце.

Па словах афіцыйнага прадстаўніка УСК па Мінскай вобласці **Алены Крупенінай**, сёння раніцай на месца здарэння выбывала следча-аператыўная група.

– Усе абставіны высвятляюцца. Валожынскі РАСК праводзіць праверку, прызначаны экспертызы, – адзначыла **Алена Крупеніна**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Жанчына пазычала грошы ў знаёмых, выкарыстоўваючы даверлівыя адносіны.

# Жанчына атрымала восем год пазбаўлення волі за махлярства

## Яна пазычала ў знаёмых грошы на нерухомасць і не аддавала

**Пракуратура Мядзельскага раёна падтрымала ў судзе дзяржаўнае абвінавачанне па крымінальнай справе ў дачыненні да 51-гадовай мясцовай жыхаркі М., якой інкрымінавалі махлярства ў буйным і асабліва буйным памерах.**

МЯДЗЕЛ

Як устанавілі падчас судовага разбору, абвінавачаная, раней судзімая, у тым ліку за махлярства, ад 2013 да 2019 года ў Мядзельскім раёне атрымала ад знаёмых у доўг значныя сумы грошай і ювелірныя вырабы.

Для гэтага М. выкарыстала даверлівыя адносіны, якія склаліся паміж ёй і знаёмымі. Грошы пазычала на набыццё нерухомасці з мэтай яе наступнага продажу, атрыманне сродкаў у ламбардзе.

Абвінавачаная, не маючы намеру першапачаткова выконваць узятыя на сябе абавязацельствы, хавала сваё кепскае фінансавае становішча. Пры гэтым абяцала своечасова вярнуць даўгі пасля продажу жылых памяшканняў. Пасля М. распараджалася чужымі сродкамі і маёмасцю па сваім меркаванні.

Ад яе супрацьпраўных дзеянняў пацярпела сем пажылых грамадзян і адна юрыдычная асоба.

Агульная сума шкоды перавысіла 40 тысяч долараў і 4,5 тысячы рублёў.

З улікам прапановы і прадстаўленых дзяржабвінаваўцам доказаў суд Мядзельскага раёна прызнаў М. вінаватай у махлярстве. Па частках 2, 3 і 4 артыкула 209 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь прызначыў ёй пазбаўленне волі на восем гадоў з адбываннем у папраўчай калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму.

**Паводле Генеральнай пракуратуры.**

## ДАІ шукае сведак аварыі, у якой пацярпела дзяўчынка-пешаход

МАЛАДЗЕЧНА

ДАІ Маладзечна шукае відавочцаў аварыі, якая здарылася 14 красавіка каля 12 гадзін дня на вуліцы Касманаўтаў.

Кіроўца на аўтамабілі «Сітраэн-Ксара» наехаў на васьмігадовую дзяўчынку, якая пераходзіла праезную частку справа налева па ходу руху аўтамабіля па нерэгуляваным пешаходным пераходзе.

Просьба сведак і відавочцаў здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: **Маладзечна, вуліца Дудко, 1-18** або па тэлефонах: **8 (0176) 74-01-40, 74-01-43** ці **102**.

**Дыяна ГАЛУЗА, АДАІ Маладзечна.**

## Аўтамабіль збіў раварыстку

АСТРАВЕЦ

Каля 12 гадзін на трэцім кіламетры аўтадарогі Астравец-Дравенікі-Гудагай аўтамабіль наехаў на жанчыну.

Устанавілі, што 39-гадовы кіроўца аўтамабіля «Шкода» каля вёскі Кумпяны на прамым участку дарогі наехаў на равrouteарыстку. Жанчына ехала ў спадарожным кірунку па ўзбочыне і раптам выехала на праезную частку.

Пасля наезду пенсіянерку з траўмамі рознай ступені цяжкасці забралі ў бальніцу. У яе ўдар чэрапа, пералом абедзвюх ключыц і рэбраў.

**Паводле УУС Гродна.**

## Дачнік гуляў па лесе і знайшоў снарад Першай сусветнай

ВІЛЕЙКА

Падрабязнасці расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

16 мая ў 17:30 у Вілейскі РАУС патэлефанаваў мужчына. Ён паведаміў, што ў лесе ля вёскі Слабада знайшоў снарад. Мужчына – жыхар Пухавіцкага раёна. На Вілейшчыну ён прыехаў на лецішча.

На месца прыбылі работнікі сапёрна-піратэхнічнай групы вайсковай часці 3310. Яны ўстанавілі, што знойдзеная прылада – 76-міліметровы артылерыйскі снарад Першай сусветнай.

У той жа дзень спецыялісты знішчылі снарад у бяспечным месцы, у полі ля вёскі Арпа.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Гаспадар тушыў дом і трапіў у бальніцу з апёкамі

ВІЛЕЙКА

19 мая ў 3:22 вілейскім выратавальнікам паведамілі пра пажар у вёсцы Рускае Сяло Нарочкага сельсавета. Гарэў жылы дом.

Гаспадар спрабаваў тушыць пажар самастойна да прыбыцця выратавальнікаў. У выніку 48-гадовы мужчына атрымаў апёкі 1-3 ступеняў. Яго забралі ў бальніцу, паведамілі ва Упраўленні МНС па Мінскай вобласці. Дакладную прычыну пажару высвятляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Як распаліць вогнішча, каб не было бяды

**Ад пачатку года ў Маладзечанскім раёне выратавальнікі 38 разоў выязджалі на тушэнне пажару ад загарання сухой расліннасці.**



Так выглядае месца на Маладзечаншчыне, дзе здарыўся пажар.

Фота забяспечана Валянцінай СОПАТ.

У мінулыя выхадныя падраздзяленні Маладзечанскага ГРАНС тушылі сухую траву каля вёскі Рухлі Мясоцкага сельсавета і ў вёсцы Кічына Гарадоцкага сельсавета.

**Абодва пажары ўзніклі з-за няправільнага распальвання вогнішча.**

У вёсцы Рухлі мужчына развёў вогнішча за сваім участкам. Ён паставіў побач з вогнішчам вядро з вадой, прынёс лапату, але пакінуў вогнішча без нагляду. У выніку ветранага надвор'я агонь з лёгкасцю перакінуўся на сухую траву. Гаспадар участка, убачыўшы маштабы пажару, зразумеў, што самастойна з агнём не справіцца, і выклікаў выратавальнікаў.

Нярэдка агонь з сухой травы пераходзіць на пабудовы. Былі выпадкі, калі пры тушэнні загарання сухой расліннасці гінулі людзі. Ратавальнікі нагадваюць: за незаконнае выпальванне сухой расліннасці, траў на корані, пажніўных рэштках прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць. Вінаватага караюць штрафам ад 10 да 30 базавых велічынь. На сёння гэта ад 290 да 870 рублёў.

Калі вы вырашылі развесці вогнішча на прысядзібным участку, выконвайце правілы бяспекі:

– выбірайце зацішнае надвор'е;

– вызначыце правільнае месца для вогнішча. Яно павінна быць на бяспечнай адлегласці;

– месца вогнішча трэба абкапаць, каб прадухіліць распаўсюджванне агню;

– працэс неабходна пастаянна кантраляваць;

– з сабой да вогнішча вазьміце вядро з вадой або вогнетушыцелем, лапатай, каб хутка зрэагаваць, калі нешта пойдзе не па плане;

– пасля таго, як вогнішча дагарыць, заліце яго вадой, каб не дапусціць паўторнага ўзгарання.

Не грэбуйце жыццёва важнымі правіламі. Беражыце сябе і сваіх блізкіх! У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары 101 ці 112 і не забывайце ўказваць адрас і месца пажару.

**Валянціна СОПАТ, ГРАНС Маладзечна.**

## Каб канікулы былі бяспечныя

**Набліжаюцца летнія канікулы. Таму хочацца нагадаць аб правілах бяспекі. Школьнікі павінны іх ведаць і выконваць, а бацькі – кантраляваць.**

Менавіта таты і мамы нясуць адказнасць за бяспеку свайго дзіцяці. На жаль, у час канікулаў павялічваюцца няшчасныя выпадкі з удзелам дзяцей, якія засталіся без нагляду.

15 мая супрацоўнікі Маладзечанскага ГРАНС у рамках рэспубліканскай акцыі «Не пакідайце дзяцей адных» у гандлёвым цэнтры «Спадарожнік» нагадвалі бацькам асноўныя правілы бяспекі. Рабілі гэта з дапамогай розных гульняў і віктарын. Сярод бацькоў былі такія мамы і таты, якія пра бяспеку ведаюць літаральна ўсё. Яны атрымалі ў падарунак аўтаномны пажарны апавяшчальнік.

А мы, выратавальнікі, яшчэ раз нагадваем усім чытачам, пра якія правілы трэба казаць сваім дзецям перад летнімі канікуламі.

– Паўтарыце з дзецьмі свой дамашні адрас і тэлефоны экстранных службаў – **101, 112, 102, 103, 104.** Не лішнім будзе каля тэлефона прымацаваць ліст з гэтымі нумарамі і растлумачыць дзецям, у якіх выпадках на які нумар трэба тэлефанаваць.

– Нагадайце сваім дзецям, што ў выпадку пажару неабходна адразу выбегчы на вуліцу і клікаць на дапамогу дарослых. Ні ў якім разе не хавацца пад ложак або ў шафу. Растлумачце, чаму ад агню нельга схавацца і што тушыць яго могуць толькі выратавальнікі.

– Запалкі і запальнічкі захоўвайце ў недаступным для дзяцей месцы.

– Таксама не дазваляйце малым дзецям выкарыстоўваць газавую пліту і электрапрыборы. Былі выпадкі, калі дзеці 12 і больш гадоў атрымлівалі вялікія апёкі, калі самастойна разагравалі сабе ежу на пліце.

Шмат дзяцей паедзе на канікулы да дзядуль і бабуль у вёску. Нагадайце сваім бацькам, каб пераканаліся, што ў доме няма нічога небяспечнага для вашых дзяцей. Неабходна схаваць лекі, пруткі, нажніцы, бытавую хімію і іншыя прадметы, небяспечныя для дзяцей.



Валянціна Сопат вучыць бяспецы дзяцей і бацькоў.

Фота забяспечана ГРАНС Маладзечна.

Калі дзеці будуць гуляць на вуліцы, то за імі таксама трэба пільна сачыць увесь час. Былі выпадкі, калі малыя танулі ў возеры, каля дома, застаўшыся без нагляду ўсяго на пару хвілін.

Трагічны выпадак здарыўся з двума школьнікамі, якія знайшлі ў бабулі спіртавую настойку і спрабавалі зрабіць факел. У выніку загінула бабуля, якая ратавала ўнука, і хлопчык васьмі гадоў. Каб з вашым дзіцем нічога не здарылася, важна ведаць, дзе яно знаходзіцца і чым займаецца.

Выратавальнікі рэкамендуюць дзеля дапамогі бацькам у навучанні дзяцей правілам бяспекі мультфільм МНС «Цудоўная кніга». Паглядзіце са сваімі дзецьмі ўсе серыі, разбярыце з дапамогай герояў мультфільма надзвычайныя сітуацыі. Растлумачце, як іх не дапусціць, а калі і здарылася бяспечная сітуацыя, як з яе выйсці. Знайсці мультфільм вы можаце на афіцыйным youtube канале МНС.

Паважаныя бацькі, беражыце сваіх дзяцей.

**Валянціна СОПАТ, ГРАНС Маладзечна.**

# Уводзяць нацыянальную сістэму нагляду за таварамі

**Ад 1 ліпеня пачне працаваць сістэма інфармацыйнага нагляду за таварамі, якія выпускаюцца ў Беларусі, ідуць на экспарт і імпарт. Пра гэта гаворыцца ў пункце 7 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29.12.2020 №496 «Аб наглядзе за таварамі» (далей – Указ №496).**

Пералік тавараў, якія падлягаюць нагляду, зацверджаны пастановай Савета Міністраў ад 23 красавіка гэтага года №250 «Аб рэалізацыі Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 2020 года №496» (далей – пастанова №250)

Зацверджаныя два пералікі:

1. Пералік тавараў, звесткі аб абароце якіх з'яўляюцца прадметам інфармацыйнага ўзаемадзеяння з дзяржавамі – членамі ЕАЭС.

2. Пералік тавараў, звесткі аб абароце якіх з'яўляюцца прадметам нагляду.

Суб'ектам гаспадарання неабходна будзе падаваць у падатковыя органы па месцы пастаноўкі на ўлік звесткі (пункт 4 Палажэння аб функцыянаванні сістэмы нагляду за таварамі, зацверджанага Указам №496):

– пра рэшткі тавараў, якія ёсць на дату ўключэння іх у пералік;

– пра выраблены тавары, уключаныя ў пералік 2;

– пра тавары, увезеныя з тэрыторыі дзяржаў – членаў ЕАЭС.

Ва ўстаноўленых выпадках звесткі пра вытворчасць або ўвоз з ЕАЭС тавараў суб'екты гаспадарання могуць не падаваць. Гэта датычыцца тавараў:

– якія выкарыстоўваюцца як узоры і экспанаты на выставах і кірмашах.

– атрыманых як замежная бязвыплатная дапамога або міжнародная тэхнічная дапамога;

– якія з'яўляюцца бязвыплатнай (спонсарскай) дапамогай.

Структура і фармат звестак, што перадаюцца суб'ектамі гаспадарання і рэалізуюць арганізацыі, а таксама склад звестак у дачыненні да тавараў, уключаных у пералік 2, вызначыць Міністэрства па падатках і зборах.

## У якія тэрміны трэба будзе падаваць звесткі

Звесткі пра названыя тавары неабходна будзе падаваць не пазней за 20 числа месяца, наступнага за месяцам дня вытворчасці або прыняцця на ўлік увезеных тавараў, але не пазней за дату пачатку іх абароту.

Пад аперацыямі, звязанымі з абаротам тавараў, маюцца на ўвазе:

– адгрузка або атрыманне тавараў з месцаў рэалізацыі або захоўвання па дагаворах куплі-продажу, мены. Пад адгрузкай тавараў разумеецца перадача тавараў перавозчыку для іх дастаўкі суб'екту гаспадарання, упаўнаважанаму на атрыманне гэтых тавараў на падставе дагавора або на іншай законнай падставе, ці непасрэдна такому суб'екту гаспадарання.

– адгрузка і (або) перадача або атрыманне тавараў па дагаворах камісіі, даручэння і іншых аналагічных дагаворах, захоўвання, падраду, фінансавай арэнды (лізінгу), камерцыйнай пазыкі, аказання лагістычных паслуг, уключаючы адгрузку і (або) перадачу або атрыманне тавараў з выстаў, кірмашоў у Беларусі і (або) іншых дзяржавах ЕАЭС. Выключэнне – адгрузка і (або) перадача тавараў на захоўванне ў парадку і выпадках, прадугледжаных палажэннем аб парадку ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, адабранай, арыштаванай або накіраванай у даход дзяржавы;

– выкарыстанне ў вытворчасці і (або) транспарціроўка тавараў. Выключэнне – перамяшчэнне тавараў паміж структурнымі падраздзяленнямі суб'ектаў гаспадарання, месцамі іх дзейнасці (напрыклад, месцамі захоўвання і вытворчасці), што выконваецца работнікамі арганізацыі або ІП, якія з'яўляюцца матэрыяльна адказнымі асобамі, без выезду на аўтамабільныя дарогі агульнага карыстання, выхаду на землі агульнага карыстання або ў межах гандлёвага цэнтра, рынку, будаўнічай пляцоўкі.

## Якія абавязкі з'явяцца ў суб'ектаў гаспадарання

Падчас працы з таварамі, уключанымі ў пералік, суб'екты гаспадарання будуць абавязаныя:

– выкарыстоўваць электронныя накладныя. Устаноўлены выпадкі, калі можна будзе не выкарыстоўваць іх. Напрыклад, пры рэалізацыі тавараў у рознічным гандлі фізічным асобам;

– падаваць поўныя і дакладныя звесткі, якія падлягаюць уключэнню ў сістэму нагляду за таварамі. Збор, улік, захоўванне, апрацоўка і кантроль звестак робіцца ў праграмным комплексе «Сістэма нагляду за таварамі» (далей – ПК СНТ);

– весці колькасны ўлік тавараў, уключаных у пералік, у адзінках вымярэння, якія падлягаюць указанню ў электронных накладных.

**Выкарыстоўваць электронныя накладныя і падаваць звесткі будуць абавязаныя ў тым ліку арганізацыі, якія рэалізуюць тавары.**

Калі суб'екты, што рэалізуюць тавары, не могуць рабіць электронныя накладныя, дапускаецца выкарыстанне таварна-транспартных і таварных накладных на паперы.

**Аднак пасля трэба будзе стварыць і перадаць электронныя накладныя ў ПК СНТ на працягу пяці рабочых дзён.**

Немагчымасцю выкарыстання электронных накладных лічыцца няспраўнасць інфармацыйных сістэм МПЗ і (або) апарата агульнадзяржаўнай аўтаматызаванай інфармацыйнай сістэмы (ААІС), тэхнічныя збоі, парушэнні ў працы сетак электрасувязі, інтэрнэта, адключэнне электраэнергіі, а таксама ў іншых выпадках, вызначаных міжнароднымі прававымі актамі.

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Маладзечанскага раёна.**

# Дызайн убору на міжнародны конкурс узялі з твора мастачкі з Маладзечна. А яе не спыталі

МАЛАДЗЕЧНА

**16 мая ў Маямі праходзіў конкурс «Міс Сусвету». Украіну прадстаўляла Лізавета Ястрэмская. Яе ўбор «Душа-Выцінанка» прэзентавалі як украінскі нацыянальны строй.**

А між тым, частка ўбору – твор прадстаўніцы маладзечанскай школы выцінанкі, мастачкі, народнага майстра, выкладчыцы Маладзечанскага музкаледжа Лізаветы Чырвонцавай.

### Маладзечанскую выцінанку прадставілі як украінскую

– Нядаўна са мной звязаліся мае ўкраінскія калегі, паказалі фота гэтага ўбору і спыталі, ці нагадвае ён мне нешта.

> **Я, канешне, пазнала частку сваёй працы. Гэта твор 2016 года.**

Тады ў Маладзечне праходзіў сёмы Міжнародны сімпозіум мастацкага выразання. У Мінскім абласным краязнаўчым музеі была выстава, прысвечаная майстрам выцінанкі – **Вячаславу Дубінку** і маёй маці, **Вікторыі Чырвонцавай**. Там выстаўлялася мая праца-трыпціх «Родныя вобразы».

> **Цэнтральную частку трыпціха, выцінанку «Малітва», якраз і ўзялі, не спытаўшыся.**

Атрымліваецца, працу маладзечанскай школы выцінанкі будуць прадстаўляць як украінскі нацыянальны твор, адзначае Лізавета.

### Калі спытала пра кампенсацыю, дызайнер замаўчала

Украінскія калегі знайшлі дызайнера, якая стварала ўбор для Ястрэмскай. Гэта **Наталля Шаўчук**. 8 мая яна звязалася з Лізаветай, сказала, што ўбачыла выцінанку ў свабодным доступе ў інтэрнэце.

> **Адзначыла, што некалькі чалавек шукалі аўтара працы, але не знайшлі. А выцінанка вельмі спадабалася ім. Вось і ўзялі.**

– Калі я спытала пра кампенсацыю і пра тое, чаму ж дызайнер не звярнулася да ўкраінскіх майстроў, якія маглі б падказаць аўтара, Наталля замаўчала. І пакуль не адказвае, – дзеліцца Лізавета.

Мастачка ўжо кансультавалася са спецыялістамі.

> **Кажа, што для таго, каб вярнуць сваё права, трэба ехаць ва Украіну і працаваць з мясцовымі юрыстамі. А гэта – і час, і грошы. Да таго ж усё ўскладняецца пандэміяй.**

### Чаму выцінаншчыкі церпяць ад плагіяту

Лізавета мяркуе, што фота працы, хутчэй за ўсё, трапіла ў вольны доступ з яе старонкі ў фэйсбуку. А ўвогуле, суразмоўца не раз заўважала: выцінаншчыкі ў адносінах да аўтарскага права самыя неабароненыя з мастакоў:

– Любы можа ўзяць з інтэрнэта тваю працу, раздрукаваць і дзірачкі прарэзаць.

І ўсё ж былі ў практыцы суразмоўцы выпадкі, калі з дызайнерамі атрымлівалася дамаўляцца.

### Супраца прыносіць задавальненне, калі ўсё законна

Выцінанка – гэта сапраўдная фішка, перакананая Лізавета. Творы мастацкага выразання цудоўна глядзяцца і як прынты на адзенні, і як вялікія арт-аб'екты ў гарадской прасторы. Неаднаразова мастачка мела станоўчы досвед такой супрацы. Адзначае, што гэта цікава і прыносіць задавальненне. Канешне, калі ўсё законна.

> **А яшчэ Лізавета Чырвонцава падзялілася сваёй марай – зрабіць вялікі мурал у выглядзе выцінанкі ў Маладзечне.**

### Мастачка: Сітуацыя атрымала розгалас дзякуючы СМІ

Мы звязаліся з Лізаветай Чырвонцавай перад выхадам газеты і спыталі, ці ёсць нейкія навіны з украінскага боку.

– Сябры напісалі, што дызайнер Наталля Шаўчук актыўна выдаляе адмоўныя каментары ў сваіх сацсетках. А яшчэ 15 мая са мной звязаўся адзін украінскі тэлеканал, запісалі мой каментар. Лічу, што сітуацыя набыла розгалас дзякуючы ўвазе беларускіх СМІ, – адзначыла Лізавета.

Дарэчы, пераможцай конкурсу «Міс Сусвет» стала ўдзельніца з Мексікі Андрэа Меса. Лізавета Ястрэмская не прайшла ў топ-21 канкурсантак.

Выцінанка (абласныя назвы выразанка, выстрыганка) – ажурны ўзор, выразаны з белай, чорнай ці каляровай паперы. Від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У беларускай культуры найбольш пашыраныя аднаколерныя выцінанкі; часам іх рабілі ў некалькі слаёў рознага колеру. Узоры геаметрычныя, раслінныя, радзей заамарфныя і антрапаморфныя. У Беларусі ў 19 – першай палове 20 стагоддзяў выцінанкі ўжываліся для афармлення жылля, выкарыстоўваліся як частка аздаблення інтэр'ера на святы, асобных прадметаў (падзоры на паліцы, суднікі, вушакі дзвярэй, бардзюры на рамы і г.д.); на захадзе Беларусі чорнымі ці паліхромнымі выцінанкамі ўпрыгожвалі беленыя сцены жытла. У наш час матывы і прыёмы выцінанкі пашыраныя ў афармленні кніг, упаковак, паштовак і г.д. На пачатку 1990-х гадоў калекцыя выцінанак зберагалася ў Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР. У Маладзечне знаходзіцца адзіная ў Беларусі школа выцінанкі. У 1995 годзе пры музкаледжы імя Агінскага (тады музвучылішчы) адкрылі аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Багаты творчы і педагагічны досвед Вікторыі Чырвонцавай, маці Лізаветы, дазволіў стварыць абгрунтаваную методыку выкладання выцінанкі і вучэбную праграму, зацверджаную Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь у 2001 годзе.



Фота instagram.com/missukraine_univers.

Так выглядаў убор украінскай удзельніцы на Міжнародным конкурсе прыгажосці.



Фота са старонкі Лізаветы ў фэйсбуку.

А так выглядала частка трыпціха Лізаветы Чырвонцавай.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Беларусь 1

**6.05** Х/ф **«ПО ЩУЧЬЕМУ ВЕЛЕНИЮ».**
**8.00** Існасць [СТ].
**8.30** Смысл жизни.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Доброе утро, Беларусь!» со Светланой Боровской».
**9.55** Здоровье [СТ].
**10.45** Дача.
**11.25** «Повод есть».
**12.10** Т/с **«СЕЛЬСКИЙ ДЕТЕКТИВ. ЯБЛОНЯ РАЗДОРА».**
**14.10** Женщины и спорт.
**15.10** Краіна.
**15.40** АТН к 75-летию МТЗ.
**16.10, 19.25** Х/ф **«НА КАЧЕЛЯХ СУДЬБЫ».**
**19.00** «Вопрос номер один».
**21.00** Панорама.
**21.35** Футбол. Лига Чемпионов УЕФА. Финал. Манчестер Сити Англия) – Челси (Англия).
**0.30** День спорта.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.
**8.00, 17.40** Телебарометр.
**8.05** Т/с **«КЛОН».**
**10.05** Анимация для всей семьи «Атлантида: Затерянный мир».
**11.35** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**12.25** «Камень, ножницы, бумага».
**13.00** «На неделю».
**13.50** Х/ф **«ВСЕ ЕЩЕ ЭЛИС».**
**15.40** Х/ф **«И ГРЯНУЛ ШТОРМ».**
**17.45** Экшн «Изгой – один: Звездные войны. Истории».
**20.05** Хоккей. Чемпионат мира. Словакия – Дания. В перерыве: Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**22.35** Х/ф **«СОТНИ УЛИЦ».**

## Беларусь 3

**7.30** «Сіла веры».
**8.00, 15.20** Навіны культуры.
**8.20** «Паровозик из Ромашково». Мультфільм.
**8.30** «Балада аб доблесным рыцары Айвенга». Мастацкі фільм.
**10.00** «Жывая спадчына».
**10.25** «Беларуская кухня». Рулет з тварагом.
**10.55** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**11.25** «Прыгоды Электроніка». Мастацкі фільм [СТ].
**14.55** «Навукаманія».
**15.40** «Утаймаванне свавольнага». Мастацкі фільм.
**17.25** «Легенды кіно». Аляксандр Абдулаў.
**18.05** «Дзесяць негрыцянят». Мастацкі фільм [СТ].
**20.25** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Сяргей Усік.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Дзеці Дон Кіхота». Мастацкі фільм [СТ].
**22.25** Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2019». «Зорны карагод».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 20.00** Наши новости.
**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».
**8.00, 9.10** ОНТ представляет: «Наше утро в субботу».
**10.00** ОНТ представляет: «Тревожная кнопка».
**10.25** ОНТ представляет: «Утро вечера мудренее».
**11.00** «На дачу!» с Наташей Барбье.
**12.05** «Видели видео? «.
**14.10** Х/ф **«ПРАВО НА НАДЕЖДУ».**
**16.20** К 80-летию Олега Даля. Премьера. «Плохой хороший человек».
**17.35** Премьера. «Сегодня вечером».
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.05** Т/с **«КАК ИЗВЕСТИ ЛЮБОВНИЦУ ЗА 7 ДНЕЙ».**
**0.35** Ко дню рождения Арины Шараповой. «Улыбка для миллионов».

## СТВ

**6.35** «Пища богов».
**8.15** «Анфас».
**8.35** «Самая полезная программа».
**9.35** «О вкусной и здоровой пище».
**10.00** «Минск и минчане».
**10.30** «Центральный регион».
**11.00** «Неизвестная история».
**11.55, 13.40, 16.40** Т/с **«РОСТОВ».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**20.20** «СТВ-спорт».
**20.30** Документальный спецпроект.
**22.20** «Территория заблуждений».
**23.25** Т/с **«ЗАЧЕМ ТЕБЕ АЛИБИ?».**

## Мир

**5.00** Х/ф **«ДАМЫ ПРИГЛАШАЮТ КАВАЛЕРОВ».**
**6.00** «Всё, как у людей».
**6.15, 8.05** Мультфильмы.
**6.45** «Секретные материалы». Ковид закрыл границы.
**7.10** «Игра в слова». с Антоном Комоловым. Финал.
**8.25** «Любимые актеры». К юбилею Олега Даля.
**9.00** Ток-шоу «Слабое звено».
**10.00** Погода в Мире.
**10.10** Х/ф **«СКАЗКА О ПОТЕРЯННОМ ВРЕМЕНИ».**
**11.50** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПРИНЦА ФЛОРИЗЕЛЯ».**
**16.00, 19.00** Новости.
**16.15, 19.15** Т/с **«СЕРДЦА ТРЕХ».**
**22.10** Х/ф **«ПАПАШИ».**
**0.10** Х/ф **«СТАРЫЕ КЛЯЧИ».**
**2.25** Т/с **«ОГРАБЛЕНИЕ ПО-ЖЕНСКИ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.05, 6.55** Сегодня. Главное.
**6.20** «Дача».
**7.10** «50 рецептов первого».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by: Время итогов».
**8.45** Один день.
**9.20** «Врачебные тайны плюс».
**10.20** «Сломать стереотипы».
**10.40** «Главная дорога».
**11.15** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».
**12.00** «Квартирный вопрос».
**13.00** Истории спасения.
**13.30** «Поедем, поедим!».
**14.05** Х/ф **«ПОЦЕЛУЙ СОКРАТА». ФИЛЬМ «ПЛАЧУЩИЙ АНГЕЛ ШАГАЛА».**
**16.20** «Секрет на миллион».
**18.10** «Следствие вели…».
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**19.55** «Ты не поверишь!».
**20.55** Т/с **«ПЯТЬ МИНУТ ТИШИНЫ. НОВЫЕ ГОРИЗОНТЫ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Новое Утро».
**9.40** «Тайны Беларуси».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.30** «По секрету всему свету».
**11.55** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**13.00** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».
**14.05** Х/ф **«НЕ В ПАРНЯХ СЧАСТЬЕ».**
**16.00** Т/с **«СВИДЕТЕЛЬСТВО О РОЖДЕНИИ».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.30** Х/ф **«ОДНО ЛЕТО И ВСЯ ЖИЗНЬ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**5.00** Хорошо быть тихоней. **6.50** Талантливый мистер Рипли. **9.15** Умница Уилл Хантинг. **11.30, 1.05** День сурка. **13.20** Охотники за привидениями. **15.05** Охотники за привидениями 2. **17.00** Дивергент. **19.20** Дивергент, глава 2: Инсургент. **21.20** Дивергент, глава 3: За стеной. **23.20** Останься. **2.50** Неспящие в Сиэтле.

### TV1000 ACTION

**5.10, 23.50** Однажды в Америке. **9.15** Быстрый и мёртвый. **11.05, 3.35** Малыш Кид. **12.45** Монстро. **14.05** Обитель зла. **15.50** Обитель зла 2: Апокалипсис. **17.20** Обитель зла 3. **19.00** Обитель зла 4: Жизнь после смерти. **20.35** Обитель зла: Возмездие. **22.10** Зомби по имени Шон.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.15** Ключ времени. **7.40, 1.15** Всё или ничего. **9.05, 2.40** Элефант. **10.25** Суперменеджер, или Мотыга Судьбы. **11.55** Срочно выйду замуж. **13.55** Марафон Желаний. **15.30, 3.55** Гудбай, Америка. **17.20** Спасите Колю! **19.00** Неадекватные люди. **20.55** Неадекватные люди 2. **23.00** Текст.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **9.30, 10.15, 11.15, 12.00** Т/с **«КАСЛ». 13.00** Х/ф **«Я, ФРАНКЕНШТЕЙН». 14.45** Х/ф **«КРЕДО УБИЙЦЫ». 17.00** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ ОХОТНИК НА ВЕДЬМ». 19.00** Х/ф **«ЦАРСТВО НЕБЕСНОЕ». 22.00** Х/ф **«АЛЕКСАНДР». 1.15** Х/ф **«БЕОВУЛЬФ». 3.00** Х/ф **«МАРАБУНТА». 4.30, 5.15** «Мистические истории».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ПОРОКИ И ИХ ПОКЛОННИКИ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ОБУЧАЮ ИГРЕ НА ГИТАРЕ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«НА ПУТИ К СЕРДЦУ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ПЕРВОЕ ПРАВИЛО КОРОЛЕВЫ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.25** Х/ф **«ПЛОХОЙ САНТА». 3.05** Х/ф **«ИБИЦА». 4.40** Х/ф **«ТЫ УМЕЕШЬ ХРАНИТЬ СЕКРЕТЫ?». 6.25** Х/ф **«ЗЛОВЕЩИЕ МЕРТВЕЦЫ 3: АРМИЯ ТЬМЫ». 8.05** Х/ф **«SUPERНЯНЬ». 9.35** Х/ф **«SUPERНЯНЬ 2». 11.20** Х/ф **«100 МИЛЛИОНОВ ЕВРО». 13.05** Х/ф **«ЛЮБОВЬ К СОБАКАМ ОБЯЗАТЕЛЬНА». 15.00** Х/ф **«ОДИННАДЦАТЬ ДРУЗЕЙ ОУШЕНА». 17.10** Х/ф **«ДВЕНАДЦАТЬ ДРУЗЕЙ ОУШЕНА». 19.30** Х/ф **«ТРИНАДЦАТЬ ДРУЗЕЙ ОУШЕНА». 21.45** Х/ф **«КРАСАВЧИК СО СТАЖЕМ». 23.30** Х/ф **«НУ ЧТО, ПРИЕХАЛИ?».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.35, 1.35** Т/с **«ОБРАТНАЯ СТОРОНА ЛУНЫ». 3.50, 4.40, 5.30, 6.25** Т/с **«ЛЕГЕНДЫ О КРУГЕ». 7.20, 8.20, 9.20, 10.20** Т/с **«ГОГОЛЬ». 11.25, 12.20, 13.25, 14.20, 15.20, 16.20, 17.15, 18.15, 19.15, 20.15, 21.10, 22.10, 23.10** Т/с **«БАЛАБОЛ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00, 2.05** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **12.00** Т/с **«ПОГНАЛИ». 13.35, 21.00** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **15.35** Х/ф **«ПОКА ВСЁ ХОРОШО». 17.30** Х/ф **«SUPERНЯНЬ 2». 19.20** Х/ф **«РЕАЛЬНАЯ БЕЛКА». 22.35** Х/ф **«ГУЛЯЙ, ВАСЯ!». 0.25** Ужасы «ПРОКЛЯТИЕ ХОПВЕЛЛ». **3.00** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10** Волейбол. Золотая Евролига. Мужчины. Чехия – Турция. **9.20** Хоккей. Чемпионат мира. Дания – Беларусь. **11.20** Большой спорт. **12.05** Хоккей. Чемпионат мира. Чехия – Великобритания. **14.25** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. 11-й тур. Торпедо-БелАЗ (Жодино) – Шахтер (Солигорск). **16.15** Спорт-центр. **18.30** Гандбол. Кубок Беларуси. 1/2 финала. Мужчины. В перерыве Спорт-центр. **20.05** Хоккей. Чемпионат мира. Германия – Финляндия. В перерывах Спорт-центр. **22.35** Гандбол. Кубок Беларуси. 1/2 финала. Мужчины. **0.05** Волейбол. Золотая Евролига. Мужчины. Беларусь – Чехия.

### EUROSPORT

**0.00, 4.00, 7.00, 9.30, 11.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 19-й этап. **1.30, 2.30, 5.30, 8.00, 10.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Квалификация. Пятый день. **13.15, 20.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 20-й этап. **18.30** Конный спорт. Global Champions Tour. Сен-Тропе. Конкур. **22.00** Теннис. Building the Legend. **23.00** Теннис. «Ролан Гаррос»-2020. Обзор.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 13.50, 1.20** Мото тест-драйв. **6.15, 9.45, 12.10, 14.45, 18.25, 22.35, 0.35, 2.40** Итоговые новости. **6.35, 7.20, 17.30, 18.40** Под микроскопом. **6.45** Под микроскопом. **7.05, 7.45, 18.05, 19.10** Дома на колесах. **7.35** Куда уходит детство. **8.05** Советы для каждого. **8.35, 10.05** Мото. Вторые руки. **9.10** Испытание на прочность. **10.40** Комплектация. **11.15** Автолайф. **11.35, 19.30, 22.50, 3.30** Автомобильные музеи мира. **12.30, 20.05, 23.45, 4.00** Вечер с Пикуленко. **13.20, 0.50** От Кавказа до Аравии. **14.15, 15.05, 1.35** Тест на «Драйве». **15.40, 20.55, 4.45** Эконом-тест. **15.55, 23.25** Вторичка. **16.10** Кругосветка по бездорожью. **16.45, 21.50, 5.15** Советы юриста. **18.55** Обновление. **21.15, 5.00** Легенды автопрома. **2.55** Сити тестер. **4.40** Наезд!

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.35, 8.20, 16.30, 17.20, 1.15, 2.05, 2.50, 3.40, 4.25** Австралийские золотоискатели. **9.05, 9.55, 10.45, 11.35, 12.25, 13.10, 14.00, 14.50, 15.40** Ржавые тачки на прокачку. **18.05** Винтажные электромобили. **18.55** Снос в Австралии. **19.45** Бирюзовая лихорадка. **20.30, 21.25** Речные чудовища. **22.20, 23.10** Чудовищный карп. **0.00, 0.25, 0.50** Австралийские ловцы быков. **5.15** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.05, 5.30** Невероятные изобретения. **6.30, 4.50** Музейные тайны. **7.10** Разгадка тайны пирамид. **7.55, 13.05, 13.50** Расшифровка тайн. **8.40, 9.30, 1.35, 2.20** В поисках «Восточного экспресса». **10.20** Призрак из Каменного века. **11.15, 21.00** Невидимые города Италии. **12.10, 21.50** Невидимый город Рим. **14.35, 15.30** Последний поход викингов. **16.25, 17.15** Расшифрованные сокровища. **18.05** Загадка троянского коня. **19.10, 20.05** Тайны египетских пирамид. **22.50** Загадка костей: гендерная революция. **23.45, 0.40** Вена: империя, династия и мечта. **3.10, 4.00** Тайны музеев.

### NATURE

**6.00, 6.40, 7.25, 8.10, 9.00, 9.45, 10.30, 11.20, 12.05, 12.50, 19.45, 20.30, 21.15** Ветеринар из Йоркшира. **13.40, 14.35** Раскопки на полюсах. **15.35** Тайны великанов Ледникового периода. **16.30, 17.15, 18.05, 18.55** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **22.00** Опасная Земля. **22.55, 23.40, 0.30** Вулканы: разрушение и сотворение. **1.15** Невероятные встречи с животными. **2.05** Мутации погоды. **2.50** Выживание в дикой природе. **3.40** В зоопарке Таронга. **4.25** Постыдные проблемы питомцев. **4.55** Подработка в дикой глуши. **5.40** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Инстинкт выживания. **6.45, 7.10** Сделать за один день. **7.30** Машины: Разобрать и продать. **8.20, 9.10** Панорама 360. **10.05, 10.55** Дикий тунец: Север против Юга. **11.50, 12.40** Необычные промыслы. **13.30, 14.20, 15.10, 15.55, 16.50** Остров бунтарей. **17.35, 18.30, 19.20, 20.10** Затерянные города с Альбертом Лином. **21.00** Самые лучшие суперкары. **21.50** Настоящий суперкар. **22.40** Машины: разобрать и продать. **23.30, 0.25, 1.10** Космос: Пространство и время. **1.55, 2.40** Эвакуация Земли. **3.25, 4.10** Антарктика. **5.00** Суперсооружения Третьего рейха. **5.45** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.10, 11.00, 12.05, 13.10, 14.00, 15.05, 16.00, 17.05, 17.55, 19.00, 20.05, 21.15, 22.25, 23.15, 0.00, 1.10, 1.55, 2.55, 3.55, 5.00** Рыбалка без границ. **6.30, 7.30, 8.35, 9.40, 11.30, 12.40, 13.45, 14.35, 16.30, 17.35, 18.30, 19.35, 20.40, 21.50, 23.45, 0.35, 2.25, 3.25, 4.30, 5.30** Дело вкуса. **6.45, 7.40, 8.50, 9.50, 10.40, 11.45, 12.55, 14.50, 15.40, 16.45, 18.45, 19.50, 20.55, 22.05, 22.55, 0.55, 1.40, 2.40, 3.40, 4.45, 5.45** Рецепты Древней Колхиды. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.35, 2.50** Доктор смузи. **6.45, 10.45, 14.45, 18.45, 22.50, 3.05** Кашеварим. **7.00, 11.05, 15.05, 19.05, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.35, 15.35, 19.35, 23.40, 3.50** Идеальный сад. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 16.40, 20.40, 0.50, 4.50** Детская мастерская. **8.55, 12.55, 16.55, 1.05, 5.05** Милости просим. **9.25, 13.25, 17.30, 21.30, 1.35, 5.35** Жизнь в деревне. **21.00** Мастер-садовод. **2.05** Мультиварка.

## Беларусь 1

**5.50** Слово Епископа Казимира Великосельца на День Святой Троицы.
**6.00** Х/ф **«ПО ЩУЧЬЕМУ ВЕЛЕНИЮ».**
**7.55** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.40** Истории спасения.
**10.15** «Зона Х». Итоги недели.
**10.50** Маршрут построен.
**11.30** «Вопрос номер один».
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Т/с **«СЕЛЬСКИЙ ДЕТЕКТИВ. МЕСТЬ ЧЕРНОБОГА».**
**14.25** Один день.
**15.15** Вокруг планеты.
**15.55** «Повод есть».
**16.30** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**
**16.45, 19.10** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПОД МИКРОСКОПОМ».**
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.30** Х/ф **«НА КАЧЕЛЯХ СУДЬБЫ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.
**8.00, 19.35** Телебарометр.
**8.05** Т/с **«КЛОН».**
**9.55** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**
**10.20** «Три первых свидания». Реалити-шоу.
**11.05** Х/ф **«И ГРЯНУЛ ШТОРМ».**
**13.05** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.
**14.00** «Папа попал». Реалити-шоу.
**16.25** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**17.15** Х/ф **«СПАСАТЕЛЬ».**
**20.05** Хоккей. Чемпионат мира. Финляндия – Латвия. В перерыве: Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**22.30** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».
**8.00, 13.35** Навіны культуры.
**8.15** «Сказка о Золотом Петушке». Мультфільм.
**8.45** «Дзеці Дон Кіхота». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.30** «Беларуская кухня». Лешч, запечаны ў гліне.
**11.00** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.50** «Утаймаванне свавольнага». Мастацкі фільм.
**13.55** «Дзесяць негрыцянят». Мастацкі фільм [СТ].
**16.15** «Кадры жыцця». Прадзюсар, рэжысёр Уладзімір Бокун.
**17.10** «Прыгоды Электроніка». Мастацкі фільм [СТ].
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Балада аб доблесным рыцары Айвенга». Мастацкі фільм.
**22.40** Эдвард Грыг. «Пэр Гюнт». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**7.10** «Здоровье».
**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.30** Премьера. «Доктора против интернета».
**10.35** «Видели видео?».
**11.35** Т/с **«КАК ИЗВЕСТИ ЛЮБОВНИЦУ ЗА 7 ДНЕЙ».**
**15.10** Концерт Кристины Орбакайте.
**16.20** Концерт Кристины Орбакайте Продолжение.
**17.00** Премьера. «Кристина Орбакайте. «А знаешь, всё еще будет…».
**18.10** «Dance Революция». Новый сезон.
**20.00** «Контуры».
**21.20** «Что? Где? Когда?» Летняя серия игр.
**22.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**22.55** Х/ф **«ПРАВО НА НАДЕЖДУ».**
**0.40** Владимир Познер и Иван Ургант в проекте «В поисках Дон Кихота».

## СТВ

**6.00, 0.15** «Пища богов».
**8.15** Документальный проект.
**9.05** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.00** «Знаете ли вы что?».
**11.55, 13.40, 16.40** Т/с **«РОСТОВ».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**21.05** Документальный спецпроект.
**22.40** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Т/с **«ОГРАБЛЕНИЕ ПО-ЖЕНСКИ».**
**6.00** Мультфильмы.
**6.35** «Секретные материалы». Бездельникам тут не место.
**7.00** Х/ф **«ДРУГ».**
**8.50** «Наше кино. История большой любви». Гайдаевские тунеядцы.
**9.25** «ФазендаЛайф».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.10, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«ЗНАХАРЬ».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**4.20** Х/ф **«ПЕРВАЯ ПЕРЧАТКА».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.10** «Тело человека».
**6.45** Беларусы.
**7.20** «50 рецептов первого».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «24 вопроса».
**8.45** «Города Беларуси».
**9.25** «Я хочу это увидеть!».
**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».
**10.50** «Первая передача».
**11.25** «Чудо техники».
**12.10** «Дачный ответ».
**13.10** «НашПотребНадзор».
**14.05** Х/ф **«ПОЦЕЛУЙ СОКРАТА». ФИЛЬМ «ТАЙНА ЗОЛОТЫХ АПОСТОЛОВ».**
**16.20** «Следствие вели…».
**18.00** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.05** «Ты супер! 60+».
**22.15** «Звезды сошлись».
**23.40** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

## Беларусь РТР

**7.05** Х/ф **«СНАЙПЕР. ОРУЖИЕ ВОЗМЕЗДИЯ».**
**10.35** Х/ф **«КОВАРНЫЕ ИГРЫ».**
**14.00** Т/с **«СВИДЕТЕЛЬСТВО О РОЖДЕНИИ».**
**17.50** «Сольный концерт Тамары Гвердцители в сопровождении Президентского оркестра Республики Беларусь».
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.05** «В людях».
**21.45** Х/ф **«РОДНЫЕ ДУШИ».**
**23.20** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.50** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**5.00, 2.45** Чикаго. **7.20** Грязные танцы. **9.20** Грязные танцы 2: Гаванские ночи. **10.50** Дивергент. **13.15** Дивергент, глава 2: Инсургент. **15.15** Дивергент, глава 3: За стеной. **17.15** Киллеры. **19.00** Мистер и миссис Смит. **21.00** Ангелы Чарли. **22.40** Ангелы Чарли: только вперёд. **0.30** Валериан и город тысячи планет.

### TV1000 ACTION

**5.10** Быстрый и мёртвый. **7.20** Хэллоуин. **9.10** Хэллоуин 2. **10.50** Зомби по имени Шон. **12.25** Обитель зла 4: Жизнь после смерти. **14.05** Обитель зла: Возмездие. **15.35** Кловерфилд, 10. **17.20** Уцелевшая. **19.00** Полиция Майами: Отдел нравов. **21.10** Национальная безопасность. **22.40** Миссия: Неадекватна. **0.10** Револьвер. **2.05** Три девятки. **3.50** Помни (Мементо).

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.35** Суперменеджер, или Мотыга Судьбы. **7.00** Элефант. **8.20** Неадекватные люди. **10.05** Неадекватные люди 2. **12.15, 1.15** Ну, здравствуй, Оксана Соколова! **14.00** Трезвый водитель. **15.45** Всё или ничего. **17.20** Тихая застава. **19.00, 4.35** 9 рота. **21.25** Донбасс. Окраина. **23.10** Край. **2.55** Срочно выйду замуж.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.15** «Рисуем сказки». **8.45** «Новый день». **9.30, 10.15, 11.15** Т/с **«КАСЛ». 12.15** Х/ф **«ДОЧЬ КОЛДУНЬИ». 14.15** Х/ф **«ДОЧЬ КОЛДУНЬИ: ДАР ЗМЕИ». 16.15** Х/ф **«ЦАРСТВО НЕБЕСНОЕ». 19.00** Х/ф **«300 СПАРТАНЦЕВ». 21.15** Х/ф **«ЧЕРНАЯ СМЕРТЬ». 23.30** Х/ф **«Я, ФРАНКЕНШТЕЙН». 1.15** Х/ф **«СМЕРТНЫЙ ПРИГОВОР». 2.45** Х/ф **«АЛЕКСАНДР». 5.30** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ПЕРВОЕ ПРАВИЛО КОРОЛЕВЫ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ОБУЧАЮ ИГРЕ НА ГИТАРЕ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«НА ПУТИ К СЕРДЦУ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 2.00, 3.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.15, 11.00** Х/ф **«НУ ЧТО, ПРИЕХАЛИ: РЕМОНТ». 3.05** Х/ф **«100 ВЕЩЕЙ И НИЧЕГО ЛИШНЕГО». 5.10** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ». 7.00** Х/ф **«СОБЛАЗНИТЕЛЬ 2». 9.15** Х/ф **«НУ ЧТО, ПРИЕХАЛИ?». 12.40** Х/ф **«КОПЫ В ГЛУБОКОМ ЗАПАСЕ». 14.40** Х/ф **«ТАКСИ». 16.20** Х/ф **«ТАКСИ 2». 17.55** Х/ф **«ТАКСИ 3». 19.30** Х/ф **«ТАКСИ 4». 21.05** Х/ф **«100 МИЛЛИОНОВ ЕВРО». 22.55** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.05, 1.00, 1.55** Т/с **«БАЛАБОЛ». 2.50, 3.40, 4.30, 5.30** Т/с **«ЯЛТА-45». 6.25, 7.25, 8.25, 9.25, 10.20** Т/с **«ГОГОЛЬ». 11.25** Х/ф **«ПОСЛАНИЕ В БУТЫЛКЕ». 13.55, 14.50, 15.50, 16.50, 17.50, 18.50, 19.45, 20.45** Т/с **«ВЕЛИКАЯ». 21.40, 22.40, 23.40** Т/с **«ФАНТАЗИЯ БЕЛЫХ НОЧЕЙ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 16.10** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 1.35** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Фэнтези «ЧУДО-ДЕТКИ: НЕПУТЁВЫЕ ВОЛШЕБНИКИ». **14.35** Т/с **«ПОГНАЛИ». 16.55** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АМЕРИКАНЦА В АРМЕНИИ». 19.00** Х/ф **«НЕ ТВОЁ ТЕЛО». 21.00, 0.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.35** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **23.40** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **1.05** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.25** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 4.05** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **5.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.05** Волейбол. Золотая Евролига. Мужчины. Португалия – Турция. **8.00** Теннис. WTA. Страсбург. Финал. **10.00** Баскетбол 3х3. Чемпионат Беларуси. Мужчины. Женщины. **13.50** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. 11-й тур. БАТЭ (Борисов) – Славия (Мозырь). **15.50** Хоккей. Чемпионат мира. Превью. **16.10** Хоккей. Чемпионат мира. Беларусь – Швейцария. **18.30** Спорт-центр. **20.15** Хоккей. Чемпионат мира. Швеция – Словакия. В перерыве Спорт-центр. **22.35** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. 11-й тур. Обзор. **23.20** Итоги недели. **0.05** Волейбол. Золотая Евролига. Мужчины. Турция – Беларусь.

### EUROSPORT

**0.00, 4.00, 7.30, 9.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 20-й этап. **1.00** Конный спорт. Global Champions Tour. Сен-Тропе. Конкур. **2.30, 6.30** Теннис. «Ролан Гаррос»-2020. Женщины. Финал. Швёнтек – Кенин. **5.30, 8.30** Теннис. Building the Legend. **10.40** Теннис. «Ролан Гаррос»-2020. Обзор. **11.50, 14.00, 19.00, 20.00, 22.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Первый круг. **16.00** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 21-й этап.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 13.40, 0.40** Мото тест-драйв. **6.15, 17.10** Под микроскопом. **6.45, 7.30, 17.45, 19.05** Дома на колесах. **7.05, 18.05** Советы для каждого. **7.45, 10.20, 12.45, 16.05, 18.40, 22.35, 1.30, 3.55** Итоговые новости. **8.05** Мото. Вторые руки. **8.40** Испытание на прочность. **9.15, 10.40** Все включено. **9.45** Комплектация. **11.15, 19.35, 22.55, 3.20** Автомобильные музеи мира. **11.50, 20.05, 23.50, 4.10** Вечер с Пикуленко. **12.30, 19.25, 4.50, 5.55** Наезд! **13.00, 1.00** От Кавказа до Аравии. **14.00, 14.55, 1.45** Тест на «Драйве». **14.35, 20.55, 4.55** Эконом-тест. **15.30, 5.10** Легенды автопрома. **16.25, 21.45** Советы юриста. **18.50, 23.30** Автолайф. **21.15, 5.25** Кругосветка по бездорожью. **22.30** Обновление. **2.50** Сити-тестер.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.40, 9.30** Речные чудовища. **10.20** Винтажные электромобили. **11.10** Снос в Австралии. **12.00, 23.05** Бирюзовая лихорадка. **12.50, 13.35, 14.25, 15.10, 16.00, 16.45, 17.35, 18.20, 19.10, 19.55, 20.45, 21.30, 22.15** Австралийские золотоискатели. **23.55, 0.40, 1.30, 2.15, 3.05, 3.50, 4.35** Дикая Монтана. **5.25** Рыбалка со звездами.

### HISTORY

**6.00** Невероятные изобретения. **6.25, 5.05** Музейные тайны. **7.05** Разгадка тайны пирамид. **7.50, 15.05, 15.50** Расшифровка тайн. **8.35, 9.30, 10.25, 1.35, 2.30** Тайная история рыцарей Храма. **11.25, 12.20, 19.15** Последний поход викингов. **13.15, 16.35** Невидимые города Италии. **14.10, 17.30, 0.40** Невидимый город Рим. **18.25** Падение империи. **20.10** Восход Османской империи. **21.00** Саккара: тайные иероглифы пирамид. **21.55, 22.50** Затерянные пирамиды ацтеков. **23.45** Вена: империя, династия и мечта. **3.25, 4.15** Тайны музеев.

### NATURE

**6.05** Лучшие друзья собаки. **6.30** Законы Серенгети. **7.25** Мадагаскар, африканский Галапагос. **8.15, 9.05, 10.00** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **10.50, 11.50** Раскопки на полюсах. **12.45** Тайны великанов Ледникового периода. **13.40** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб. **14.35** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб II. **15.25** Опасная Земля. **16.20** Возвращение медведей. **17.25** Как выживают медведи. **18.10** Охота на гиппопотамов Эскобара. **19.05** Медведь – спасатель коал. **20.00, 20.50, 21.45, 22.35, 23.25** Речные чудовища. **0.20, 1.10** Невероятные встречи с животными. **1.55** Мутации погоды. **2.45** Выживание в дикой природе. **3.35** В зоопарке Таронга. **4.20** Постыдные проблемы питомцев. **4.45** Подработка в дикой глуши. **5.30** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 2.00, 2.45, 5.00** Авто-SOS. **6.50** Сделать за один день. **7.15** Машины: Разобрать и продать. **8.05, 8.55** Панорама 360. **9.50, 10.45** Дикий тунец. **11.40, 12.30, 13.20, 14.10** Тюремные трудности. **15.00, 15.25, 15.55, 16.20, 16.45, 17.10** Горячие границы: Латинская Америка. **17.35, 18.25, 19.15, 20.05** Расследования авиакатастроф. **21.00** Служба безопасности аэропорта: Рим. **21.50, 22.40** Служба безопасности аэропорта: Первый класс. **23.30** Граница. **0.20** Прорыв. **3.30, 4.15** Национальные парки Америки. **5.45** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.05, 2.10** Андрей Старков и его команда. **6.30, 10.20, 18.25, 22.35, 2.40** Сам себе охотник. **7.00, 10.50, 14.45, 19.00, 23.10, 3.05** Нахлыст без границ. **7.30, 11.20, 15.20, 19.25, 23.40, 3.35** Мир рыболова. **8.00, 11.50, 15.50, 20.00, 4.05** Рыболовные путешествия. **8.30, 12.25, 16.20, 20.30, 0.40, 4.35** Рыболовная школа для взрослых. **9.00, 12.55, 16.50, 1.10, 5.00** Сомы Европы. **9.35, 1.40** Готовим на природе. **9.50, 14.00, 17.55** Ружейная охота. Первые шаги. **13.25, 21.35, 0.10** Рыбалка 360. **14.30** Кодекс охотника. **17.25, 5.35** Рыбалка сегодня XL. **21.00** На рыбалку с охотой. **1.55** Давай зарубимся!

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30, 10.25, 14.25, 22.35, 2.50** Доктор смузи. **6.45, 10.45, 14.45, 18.45, 22.50, 3.05** Кашеварим. **7.00, 11.05, 15.05, 19.05, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.35, 15.35, 19.35, 23.40, 3.50** Идеальный сад. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 16.40, 20.40, 0.50, 4.50** Детская мастерская. **8.55, 12.55, 1.05** Милости просим. **9.25, 13.25, 17.30, 21.30, 1.35, 5.35** Жизнь в деревне. **16.55, 21.00, 5.05** Мастер-садовод. **18.30 18.30 18.30** ..И КОМПОТ! **2.05** Мультиварка.

# Як у пачатку мінулага стагоддзя гарады рэгіёна змагаліся за правы

**Напрыканцы 19 і на пачатку 20 стагоддзя на беларускіх землях адбываліся сур'ёзныя працэсы. «Рэгіянальная газета» расказвае, як на Павіллі зараджаліся і існавалі палітычныя рухі.**




Фота tutejszy.ru

На вуліцы Гарбарнай у Смаргоні ў 1910 годзе.

### Становішча да першай рэвалюцыі 20 стагоддзя

Эканамічны крызіс, аграрна-сялянскае пытанне (як прымацаваць сялян да зямлі), самадзяржаўе і саслоўная структура грамадства – гэта ўсё паўплывала на палітычныя арганізацыі і партыі, на развіццё шматлікіх рухаў. У далейшай перспектыве гэтыя моманты паўплываюць на першую рускую рэвалюцыю ў 20 стагоддзі.

У канцы 19 стагоддзя палітычныя рухі розных кірункаў – сацыяльна-дэмакратычныя, кансерватыўныя, ліберальныя – актыўна пранікалі ў грамадскае жыццё Беларусі.

**Самым актыўным быў рабочы рух, які патрабаваў паляпшэння ўмоў працы. У нашым рэгіёне ён адзначыўся ў Смаргоні і Ашмянах.**

У 1895 – 1897 гадах у гэтых гарадах ішла палітычная і эканамічная агітацыя, пасля якой у іх утварыліся рабочыя арганізацыі.

Прыкладна ў гэты ж час у Смаргоні стварылі сацыял-дэмакратычную групу, аддзяленне марксісцкай арганізацыі «Літоўская сацыял-дэмакратыя», якая пазней стала партыяй. Далей смаргонскі рабочы рух удзельнічаў у Рабочым саюзе Літвы, які меў на сваёй мэце «барацьбу з рускім дэспатызмам», але толькі «шляхам аб'яднання з усімі сацыял-дэмакратычнымі групамі Расіі». У 1897 годзе смаргонская арганізацыя будзе значна аслабленая праз арышты.

Новы віток уздыму рабочага руху пачнецца ў 1898 – 1900 гады. Рабочыя дамагаліся правоў, лепшых умоў працы праз законныя метады барацьбы. Арганізоўваліся стачкі. Дзеянні рабочых выклікалі рэакцыю з боку ўлады: пачыналіся арышты паліцыяй, рэпрэсіі. Свавольства паліцыі і царскіх чыноўнікаў абярнулася ў масавыя дэманстрацыі і маніфестацыі.

1 мая рабочыя адзначалі як Міжнародны дзень пралетарскай салідарнасці. У гэты дзень у 1900 годзе амаль па ўсіх гарадах Беларусі прайшлі масавыя акцыі.

**Напрыклад, у Смаргоні пахаванне рабочага ператварылася ў антыўрадавую дэманстрацыю. Такія дэманстрацыі адбываліся напаўстыхійна.**

У беларускіх гарадах у тыя часы збіраліся так званыя масоўкі (тайныя сходкі), іх праводзілі з нагоды 1 мая, дня забойства народавольцамі Аляксандра II (1 сакавіка), дня адмены прыгоннага права (19 лютага) і інш.

У канцы 19 стагоддзя ў Беларусі дзейнічалі розныя яўрэйскія арганізацыі. Сіяністы, якія хацелі ўтварыць сваю дзяржаву, і рабочая арганізацыя яўрэяў Бунд. Яўрэйскія арганізацыі дзейнічалі ў Смаргоні і Ашмянах.

### Рэвалюцыя 1905 – 1907 гадоў

Эканамічны крызіс моцна паўплываў на Расійскую імперыю, а пасля прайгранай руска-японскай вайны становішча многіх слаёў грамадства пагоршылася. Галоўнымі патрабаваннямі былі паляпшэнне ўмоў працы, перадзел зямлі на карысць сялян, лібералізацыя краіны і пашырэнне грамадскіх свабод.

9 студзеня 1905 года ў Пецярбургу расстралялі мірнае шэсце рабочых. Хвалевы эфект ад сілавога падаўлення разнёсся па ўсёй Расійскай імперыі: павялічылася колькасць эканамічных і палітычных стачак, дэманстрацый і маніфестацый.

13 студзеня ў Смаргоні па закліку стачачнай камісіі спынілі працу тры тысячы чалавек – практычна ўсё мясцовае рабочае насельніцтва. У той жа дзень у цэнтры горада адбыўся масавы мітынг, у якім удзельнічалі дзве тысячы чалавек. Пасля мітынгу яны прайшлі з чырвонымі сцягамі і рэвалюцыйнымі заклікамі па некалькіх вуліцах горада. Мясцовыя ўлады і паліцыя ніяк не перашкодзілі правядзенню ні мітынгу, ні шэсця. На наступны дзень у Смаргонь прыехаў віленскі губернатар у суправаджэнні 36 казакоў і 400 салдат, арыштавалі каля 60 чалавек.

У 1905 годзе мітынгі і сходы праходзілі ў шматлікіх беларускіх гарадах і мястэчках. У нашым рэгіёне яны адбыліся ў Смаргоні, Ашмянах, Івянцы і Лебедзеве. У лютым-сакавіку выступалі краўцы ў Смаргоні, а ў жніўні баставалі гарбары ў Смаргоні і Ашмянах.

Смаргонь і Ашмяны не былі адзінымі гарадамі ў рэгіёне, што фігуравалі ў грамадска-палітычным жыцці беларускіх земель. У кастрычніку 1905 года былі створаны праўладныя «Саюз 17 кастрычніка». Да пачатку 1906 года яго аддзяленне дзейнічала ў Вілейцы, ініцыятыва аб стварэнні сыходзіла ад царскіх чыноўнікаў.

**Рэвалюцыя 1905 – 1907 гадоў пацярпела паражэнне, а пасля рушыла рэакцыя: сітуацыя, якая характарызавалася ўсталяваннем рэакцыі і тэрору.**

У многіх паветах і гарадах Беларусі да 1909 года дзейнічала «Палажэнне аб узмоцненай і надзвычайнай ахове». Царская адміністрацыя на месцах карысталася правам выдаваць «абавязковыя пастановы». Гэтыя дакументы рэгламентавалі ўсе бакі грамадскага жыцця насельніцтва і мелі сілу закона. Нават для паездкі на роверы ў межах аднаго павета патрэбны быў дазвол паліцмайстра. За парушэнне правілаў вінаватыя караліся турэмным зняволеннем да трох месяцаў альбо штрафам.

### Нацыянальна-арыентаваны рух

У 1902 годзе была створаная Беларуская сацыялістычная грамада (спачатку называлася Беларуская рэвалюцыйная грамада). Партыя выступала за звяржэнне самадзяржаўя, свабоду друку, сходаў выбараў, раўнапраўе ўсіх людзей і правядзенне прамых выбараў.

**Дакладна вядома, што ў Ашмянскім павеце распаўсюджваліся брашуры рэвалюцыйна-дэмакратычнага зместу ад выдавецтва «Грамада», што знаходзілася ў Пецярбургу.**

У рэвалюцыю 1905 – 1907 гадоў БСГ дзейнічала сярод сялянства ў Мінскай, Віленскай і Гродзенскай губернях. Асноўным аб'ектам дзейнасці было беларускае сялянства, а ўплыў на гарадскіх рабочых – асноўнай рэвалюцыйнай масы – у гарадах быў вельмі нязначным, за выключэннем Вільні і Мінска.

**Настасся УТКІНА.**

*Працяг будзе.*

● КАЛЯНДАР

21 МАЯ

**1925.** У ЗША **Кларэнс Бёрдсай** прымяніў глыбокую замарозку для захавання прадуктаў, якія прайшлі папярэднюю кулінарную апрацоўку.

22 МАЯ

**1899.** Нарадзіўся **Мікола Чарнецкі**, беларускі публіцыст, педагог, палітычны дзеяч. Працаваў настаўнікам беларускай гімназіі ў Радашкавічах. Забіты 19 студзеня 1944 года польскім падполлем недалёка ад Беластока.

23 МАЯ

**1924.** Нарадзіўся **Мікола Ганько**. Хутар Каледзіна, цяпер Маладзечанскі раён. Беларускі грамадскі дзеяч у Канадзе. Памёр 16 мая 1999 года.



**1996.** Пад Баранавічамі разбіўся СУ-27. Загінуў вайсковы лётчык **Уладзімір Карват**. Уганараваны пасмяротна званнем «Герой Беларусі».

24 МАЯ

**1904.** Нарадзіўся **Адам Русак**, беларускі паэт-песеннік. Аўтар слоў песні «Бывайце здаровы».



25 МАЯ

**1933.** У Мінску адкрыўся Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета.

26 МАЯ

**1909.** У Рызе нарадзіўся **Часлаў Ханяўка**, беларускі грамадскі дзеяч на эміграцыі (пам. 02.07.1988). Сям'я паходзіла з Будслава.

27 МАЯ

**1703.** Закладзеная Петрапаўлаўская крэпасць. Дзень заснавання Санкт-Пецярбурга.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «Лепш мець пабочныя эфекты, чым памерці ад каронавіруса»

## Журналіст і актывіст – пра тое, чаму вырашыў прышчапіцца ад COVID-19

МАЛАДЗЕЧНА

**Ураджэнец Маладзечна, журналіст і актывіст Андрэй Эзерын, які жыве ў сталіцы, нядаўна зрабіў другую фазу вакцыны ад каронавіруса. Адчувае сябе добра, пабочных эфектаў няма. Пра тое, чаму вырашыў вакцынавацца, мужчына расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты».**

### Прапагандуючы вакцынацыю, не мог не прышчапіцца сам

– У мяне даволі спецыфічная гісторыя з вакцынацыяй. Справа ў тым, што я як актывіст займаюся камунікацыяй на тэму каронавіруса. Са сваімі калегамі мы праводзілі семінары для журналістаў, дзе расказвалі пра захворванне, пра вакцынацыю, пра тое, навошта яна патрэбная.

> **Было б дзіўна, калі б чалавек, які прапагандуе вакцынацыю, сам не зрабіў прышчэпку, – расказвае Андрэй.**

Суразмоўца кажа, што сур'ёзна вывучаў гэта пытанне. Таму ніякіх міфаў і стэрэатыпаў, звязаных з прышчэпкамі, у яго няма. І калі ў сакавіку з'явілася інфармацыя пра тое, што можна запісацца на прышчэпку ў паліклініку, Андрэй гэта адразу зрабіў.

– Калі прыйшоў вакцынавацца першы раз, у кабінеце доктара мне далі падпісаць паперу. Там было восем-дзесяць пытанняў пра здароўе. Сярод іх: ці няма ў мяне вострага рэспіраторнага захворвання. А яго сімптомы я якраз адчуваў, таму прышчэпку мусіў адкласці.

### Пра расійскую вакцыну

Вакцынаваўся Андрэй «Спутником V», хаця яго жонцы, якая прышчаплялася на дзесяць дзён раней, рабілі прышчэпку кітайскай вакцынай.

– Звычайнаму чалавеку вельмі цяжка зарыентавацца, што добра, а што дрэнна. Цяпер шмат рознай інфармацыі, у тым ліку, фэйкаў.

> **Каб вызначыць, чым адна вакцына лепшая за іншую, трэба быць ледзь не спецыялістам.**

А я ведаю, што расійская школа вакцынацыі – моцная, мае багатую гісторыю. Таму сумненняў у якасці не было, – адзначае суразмоўца.

### А навошта прышчэпка ад грыпу?

Перад прышчэпкай пацыента доктар спытаў пра самаадчуванне, а пасля медсястра зрабіла ўкол.

**Паўгадзіны пасля працэдуры сказалі пабыць у паліклініцы. Сёння, пасля дзвюх фаз вакцыны, Андрэй адчувае сябе добра. Кажа, што пабочных эфектаў няма.**

Мой суразмоўца лічыць сябе «ўзорным пацыентам», бо ямчэ да вакцынацыі ад «кароны» першы раз у жыцці прышчапіўся ад грыпу:



Фота са старонкі ў Фэйсбуку.

Андрэй Эзерын – за вакцынацыю.

– Пайшоў на прыём да свайго кардыёлага. І ён параіў прышчапіцца ад грыпу.

> **Сказаў, што прышчэпленым ад грыпу нашмат лягчэй пераносяць каронавірус.**

Па восені, ужо зрабіўшы прышчэпку ад грыпу, меў нейкія падобныя да ВРВІ сімптомы.

> **Але праз дзесяць дзён зрабіў тэст, антыцелаў не было. Такім чынам, пацверджанага кавіда не маю да сёння.**

### Нас прышчаплялі і ў садку, і ў школе

Андрэй лічыць, што ў бліжэйшыя гады нас чакае новая хваля вакцынацыі, бо расце колькасць розных захворванняў.

> **– Канешне, свету прыйдзецца змагацца з міфамі і стэрэатыпамі.**

Але ж прыгадайце савецкі час: і ў дзіцячым садку, і ў школе нас прышчаплялі – і мы жывыя. Я лічу, што лепш мець пабочныя эфекты, чым памерці ад каронавіруса.

> **Літаральна апошнімі днямі некалькі маіх знаёмых страцілі блізкіх людзей.**

А магчыма, гэтага можна было б пазбегнуць, – падсумаваў Андрэй.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзе ў рэгіёне можна здаць лабараторны тэст на каронавірус

МАЛАДЗЕЧНА
АСТРАВЕЦ

Здаць ПЛР-тэст можна ў Мінскай абласной станцыі пералівання крыві, што ў Маладзечне. А таксама ў Астравецкай ЦРБ. Пра гэта паведамляе Міністэрства аховы здароўя.

Вынікі вам выдадуць на дзвюх мовах: па-руску і па-англійску. Дакумент патрэбны тым, хто выязджае за мяжу.

ПЛР-дыягностыка – полімеразная ланцуговая рэакцыя. Гэта высокаскладаны тэст, які распазнае інфекцыю на розных стадыях. Тут можа быць толькі адзін з двух вынікаў: станоўчы або адмоўны. Даследаванне можна праводзіць толькі ў лабараторыях.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вывучаюць імунітэт да каронавіруса

Інтэрвал паміж увядзеннем першага і другога кампанентаў вакцыны супраць каронавіруса можна павялічыць, калі не атрымліваецца зрабіць другую вакцынацыю праз 21-28 дзён.

Гаворка ідзе пра такія сітуацыі, як узнікненне вострага захворвання або абвастрэнне хранічнага захворвання, адпачынак, камандзіроўкі і іншыя прычыны.

Пры вострым захворванні (у тым ліку, пасля перанесенай інфекцыі COVID-19) або абвастрэнні хранічнага захворвання ўвядзенне другога кампанента неабходна правесці пасля таго, як хворы ачуняе, або пачатку стадыі рэмісіі пры хранічным захворванні.

У індывідуальных выпадках можна прадугледзець увядзенне другога кампанента праз адзін-чатыры тыдні пасля ВРВІ або пачатку стадыі рэмісіі пры хранічным захворванні ў залежнасці ад цяжару.

Час увядзення вакцыны пасля перанесеных захворванняў вызначыць доктар індывідуальна.

Раней паведамлялі, што другі кампанент вакцыны можна ўводзіць праз тры тыдні.

**Міністэрства аховы здароўя.**

# Як прыцягнуць у свой сад карысных насякомых і жывёл

**Адна з праблем, з якой сутыкаецца кожны садоўнік, – гэта насякомыя-шкоднікі. Часам іх даволі цяжка заўважыць, толькі бачыш пагрызенае лісце або карані раслін, пажоўклыя кусты парэчак або павуціннe на яблынях.**



Адна з карысных раслін для сада – канюшына.

Хімічныя сродкі часам не толькі не дапамагаюць ліквідаваць праблему, але і шкодзяць іншым насякомым і жывёлам, а таксама чалавеку.

**Некаторыя віды птушак, дробныя млекакормячыя і земнаводныя могуць дапамагчы вырашыць праблему, таму што ядуць шкодных лічынак, гусеніц, жукоў.**

Як уладкаваць сад, каб яго наведвалі сініцы і дразды, для апылення – чмялі і пчолы, а можа, нават пасяліліся вожыкі і жабы? Некалькі карысных парадаў ад Gardeners 'Word транслюе «Зялёны партал».

Май – гэта час актыўнай працы ў садзе. Птушкі кормяць сваіх птушанят, а насякомыя-апыляльнікі: чмялі, матылі – кружацца каля кветак. У вожыкаў пачынаецца шлюбны перыяд – самцы могуць сапернічаць адзін з адным за самак, біцца, фыркаць і сапці пры гэтым.

### Не абразайце кусты

Перад тым, як абрэзаць хмызнякі або жывую агароджу, праверце іх, каб выпадкова не патрывожыць птушак, якія там гняздуюцца. Выкарыстоўвайце ручныя інструменты замест электрычных, пакуль не скончыцца сезон гнездавання. Паспрабуйце не займацца абразаннем да верасня.

### Падкормлівайце птушак

Пакладзіце ў кармушкі жывых або высушаных мучных чарвякоў для чорных драздоў і малінавак. Птушкі, якія гняздуюцца, напрыклад, сініцы і вераб'і, таксама возьмуць іх, каб пакарміць птушанят, калі не знойдуць дастаткова гусеніц.

Але трэба звяртаць увагу, каб мучныя чарвякі не зваліліся на зямлю, дзе іх уначы могуць знайсці і з'есці вожыкі. Чарвякі вельмі небяспечныя для вожыкаў – выклікаюць дэфармацыю касцей.

### Стварайце домікі для насякомых і жывёл

Пакідайце невялікія кучы камянёў і сухіх галінак, каб стварыць хованкі. У такіх хатках пасяляцца дробныя бесхрыбетныя, амфібіі і млекакормячыя.

Днём яны будуць хавацца ў сваім сховішчы, а ўначы паляваць на смаўжоў і іншых шкоднікаў, якія жывуць у садзе.

### Вырошчвайце расліны для насякомых-апыляльнікаў

Пасадзіце лаванду, размарын, арэгана, шніт-цыбулю, канюшыну і іншыя меданосныя расліны ў сонечным месцы, каб прыцягнуць у свой сад насякомых-апыляльнікаў.

### Не прыбірайце пустазелле

Пакіньце некалькі дзьмухаўцоў у садзе. Яны стануць ежай для яго жыхароў.

**Некаторыя віды насякомых адкладаюць лічынкі ў іх лісці, а іншыя сілкуюцца нектарам і пылком гэтай расліны.**

Калі ў вашым садзе ёсць сажалка, можна трохі змяніць яе, высадзіўшы там вераніку струменевую, незабудку балотную. Яны ствараюць сховішча для водных насякомых: трытонаў, лічынак стракоз, а таксама жукоў-плывунцоў.

**«Зялёны партал».**

## Чаму вароны нападаюць на людзей і што рабіць, каб абараніцца?

**Рэч у тым, што ў канцы мая і пачатку чэрвеня ў суседзяў чалавека – шэрых варон – птушаняты пакідаюць гнёзды. Але яны яшчэ не навучыліся добра лятаць, і таму могуць хавацца ў траве. Натуральна, іх бацькі наглядаюць за імі і абараняюць ад патэнцыйнай небяспекі.**

Калі каля вас з карканнем, лопаючы крыламі, лятаюць вароны і нават спрабуюць дзеўбануць, ведайце, што недзе паблізу іх птушаня. Бацькі ўспрымаюць вас як пагрозу малому. Непрыемна? Вядома. Але важна разумець: так бацькі клапоцяцца пра птушанят. І такія агрэсіўныя паводзіны ў іх ненадоўга.

Каб навучыцца лятаць, птушаняці шэрай вароны трэба ўсяго некалькі дзён, таму, калі вы сутыкнуліся з парачкай нервовых варон-бацькоў, ведайце: праз 3-4 дні яны пакінуць ваш двор.

Многія птушаняты выскокваюць з гнязда ўжо з моцнымі крыламі – тады ні варонам-бацькам, ні мінакам не даводзіцца хвалявацца.

### Што рабіць, калі атакуюць шэрыя вароны?

Не хвалюйцеся – варона не можа сур'ёзна параніць чалавека, хаця падрапаць скуру можа.

Агледзьцеся: можа, каля дарогі ці сцежкі ў траве ляжыць птушаня. Тады можна перанесці яго на 20 метраў далей ад дарогі, дзе ходзяць людзі. Рабіць гэта трэба асцярожна, бо вароны будуць нападаць, калі возьмеце птушаня ў рукі. Захініце галаву парасонам або капюшонам. Таксама варон можна адпудзіць вокрыкам.

Калі незразумела, чаму вароны атакуюць людзей на пэўным участку, – можна павесіць на ўваходзе-выхадзе з гэтага ўчастка таблічку: «Асцярожна – шэрыя вароны. Лепей абыдзіце».

Ніякіх спецыялістаў, грамадскіх арганізацый, прыродных камітэтаў у такіх выпадках выклікаць не трэба: гэта звычайная прыродная з'ява, і сур'ёзнага ўмяшання яна не патрабуе. Не трэба помсціць варонам.

Дырэктар «Аховы птушак Бацькаўшчыны» **Аляксандр Вінчэўскі** каментуе:

Нашы грамадзяне варон часцяком блытаюць з гракамі. Але гракі цалкам чорныя, а не чорна-шэрыя птушкі, гняздуюцца калоніямі, а не паасобку, ніколі не абараняюць птушанят, хаця хвалююцца за іх не менш за варон. Шэрыя вароны – надзвычай разумныя птушкі. Толькі ўявіце сабе, што яшчэ зусім нядаўна гэтыя птушкі гнездаваліся на балотах і ўскрайках палёў і паплавоў, а цяпер амаль усе перасяліліся ў гарады. Так што ўрбанізацыя закранула не толькі людзей.

**«Ахова птушак Бацькаўшчыны».**

# На «Славянскім базары» павінны выступаць «Тройца» і «Палац», але не выйшлі «палітычнай пысай»

**Шэраг спевакоў з Беларусі, Украіны і Расіі заяўляюць аб адмове ўдзельнічаць у сёлетнім «Славянскім базары ў Віцебску». Як гэта паўплывае на фестываль і якое гучанне можа мець культурная імпрэза, мы папрасілі падзяліцца меркаваннем вядоўцу і музыку Дзяніса Дудзінскага.**



Фота facebook.com/katyarayaaa.

Колішнія вядоўцы «Славянскага базару ў Віцебску» Кацярына Раецкая і Дзяніс Дудзінскі.

### Хто адмовіўся ўдзельнічаць у «Славянскім базары»

«Славянскі базар у Віцебску» запланаваны на 15-18 ліпеня. У гэтым годзе мае адбыцца 30-ы міжнародны фестываль мастацтваў.

**На афіцыйным сайце фестывалю размешчаны спіс артыстаў, чый удзел у імпрэзе запланаваны. Сярод іх: Мікалай Баскаў, Алена Ваенга, Стас П’еха, Надзея Кадышава, Алёна Ланская, Руслан Аляхно, Аляксандр Саладуха, Анатоль Ярмоленка і іншыя.**

Шэраг артыстаў заявілі пра тое, што адмаўляюцца ад удзелу ў сёлетнім фестывалі. Гэта комік **Міхаіл Галусцян**, украінская спявачка **MARUV**, **Алег Віннік** і іншыя. Вось што, напрыклад, напісаў Галусцян: «Мае любімыя беларусы, я не збіраўся выступаць на «Славянскім базары»! Не пішыце мне ў дырэкт і не пішыце каментары. Просьба прыбраць маё прозвішча са спісаў! Не дурыце народ! Усім мір». Многіх артыстаў заклікалі не ўдзельнічаць у фестывалі прыхільнікі і неабыякавыя беларусы, звяртаючы ўвагу на тое, што ўдзел у фестывалі можа быць расцэнены як падтрымка дзейснай улады.

### «Не варта думаць, што за намі сочыць увесь свет»

Дзяніс Дудзінскі працаваў вядоўцам «Славянскага базару» ад 2006 года. **Кацярына Раецкая** стала яго партнёрам па сцэне. У ліпені мінулага года абаіх звольнілі з беларускага тэлебачання і вядзення фестывалю, таму што пара зрабіла запіс пра затрыманне людзей, што стаялі ў чарзе ў краму Symbal.by. Дудзінскага затрымлівалі 2 верасня 2020 года за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, яго асудзілі на 10 сутак.

Мы паразмаўлялі з шоўмэнам пра тое, як ён ацэньвае сітуацыю вакол фестывалю.

**– Якія ўражанні ад працы на фестывалі ў вас былі да 2020 года? Ці з’яўлялася адчуванне, што гэта не толькі культурнае свята?**

– У першую чаргу, для мяне гэта была праца. Працаваць трэба было ў вялікіх аб’ёмах, па двагадзіны мерапрыемствы на дзень. Таму пахадзіць, пагуляць па фестывалі як гледачу не было магчымасці. З таго, што бачыў я, – культура, тэхнічныя пытанні, песні, танцы. Калі мяне і спрабавалі ўцягнуць у штосьці за гэтымі межамі, то я знаходзіў спосаб не ўцягвацца.

**– У мінулым годзе вы зрабілі заяву пра палітычную сітуацыю. Ці былі сумненні ў правільнасці ўчынку?**

– Не, безумоўна. Я дарослы чалавек, нясу адказнасць за свае словы і ўчынкі. Зрабіў так, як палічыў патрэбным. А ўжо што рабіць з гэтай заявай, як рэагаваць на яе – вырашае грамадства, дзяржава, кожны сам.

**– Ці вітаеце тое, што некаторыя артысты адмаўляюцца выступаць на «Славянскім базары»?**

– Гэта рашэнне самога артыста. Мы цяпер перажываем усю гэту гісторыю, але не варта думаць, што ўвесь свет сочыць і падтрымлівае нас. Я моцна б не думаў пра тое, хто выступіць на фестывалі, а хто не. Напрыклад, **Стасу Міхайлаву** напісалі людзі з просьбай, каб ён не прыязджаў на фестываль. Што ж, маюць права. Калі б хтосьці з замежных артыстаў папрасіў парады ў мяне, я сказаў бы – сітуацыя такая, што цяпер у Беларусі збіваюць і саджаюць людзей, а ты глядзі сам, ці ехаць на такое мерапрыемства.

> **Ідэальны ў такіх умовах, напэўна, такі варыянт: артыст адыгрывае канцэрт, а ўсе атрыманыя грошы пералічвае ў фонды падтрымкі пацярпелым.**

**– Ці магчымы варыянт, што фестываль адменяць?**

– Калі не купяць білеты, не прыедуць артысты, верагоднасць ёсць. Але «Славянскі базар» – гэта сур’ёзная машына. Лічу, што ён адбудзецца ў любым выпадку, дзіркі беларускімі артыстамі заткнуць, як звычайна.

**– Сімвалам чаго можа стаць сёлетні фестываль?**

– Каб зразумець, неабходна ўбачыць, якім ён адбудзецца. Многія культурныя падзеі цяпер – гэта праявы дзяржаўнасці.

**– Ці з’яўляецца «Славянскі базар у Віцебску» месцам, дзе славянскія культуры прадстаўленыя на роўных? Або ёсць расійская дамінанта?**

– Расійскі рынак шоубізнесу ў разы буйнейшы за беларускі. Таму натуральна, што беларускі імкнецца раўняцца на яго. У гэтым няма нічога кепскага. І калі на фестывалі пераважна выступаюць расійскія артысты, таксама нічога кепскага. Беларускія артысты заўсёды прадстаўленыя на фестывалі, пытанне ў тым, якія. Сёлета – якія засталіся. На «Славянскім базары» павінны выступаць «Тройца» і «Палац», але не выйшлі «палітычнай пысай». «Славянскі базар» – гэта не толькі песні, але і тэатральныя пастаноўкі, джазавыя вечары. Былі часы, калі ў журы былі **Ала Пугачова**, **Мішэль Легран**, а цяпер – «хоць хто-небудзь пажурыце нас». Хацелася б, каб узровень канцэртаў быў іншы. У межах фестывалю ладзяць канцэрты пасля закрыцця, на якія запрашаюць «Бі-2», Арбеніну, «Мумі Троль», на якія і так пойдуць гледачы. Хочацца, каб было больш якаснай музыкі, а не фанерная папса з году ў год.



**Зоя ХРУЦКАЯ**
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# У Баранавічах разбіўся самалёт, з турмы выйшла журналістка

## Што адбылося за тыдзень у Беларусі і свеце

**«Рэгіянальная газета» расказвае пра галоўныя навіны, якія адбыліся за апошнія сем дзён у нашай краіне і свеце.**

### «Справа TUT.by», вызваленне Барысевіч

Раніцай 18 мая Дэпартамент фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю (КДК) правёў аперацыю ў офісе TUT.by. Ператрусы прайшлі ў многіх супрацоўнікаў рэдакцыі, а Міністэрства інфармацыі заблакавала доступ да сайта выдання.

Камітэт дзяржаўнага кантролю палічыў, што кіраўніцтва ТАА «Тут бай медыя» парушыла падатковае заканадаўства. У 2019 годзе кампанію зарэгістравалі як рэзідэнта Парка высокіх тэхналогій, затым кампанія стала плаціць меншыя падаткі. КДК расцаніў, што «TUT.by атрымліваў выручку, не абумоўленую дзейнасцю, дазволенай для рэзідэнтаў Парка высокіх тэхналогій», таму дзяржаве нанесеныя страты ў асабліва буйным памеры. КДК паведаміў, што дырэктар кампаніі **Людміла Чэкіна** і галоўны бухгалтар **Анжэла Асад** абвінавачваюцца ва ўхіленні ад сплаты падаткаў у асабліва буйным памеры. Іх затрымалі.

Застаюцца затрыманымі рэдактар **Вольга Лойка**, журналіст **Алена Талкачова**, галоўны рэдактар **Марына Золатава**, намеснік дырэктара **Ірына Рыбалка**, галоўны інжынер **Ала Лапатка**, бухгалтар **Марыя Новік**, юрыст **Кацярына Ткачэнка**, менеджар **Андрэй Аўдзееў**, намеснік галоўнага дырэктара па тэхнічных пытаннях **Аляксандр Дайнэка**.

Міністэрства інфармацыі заявіла, што TUT.by распаўсюджваў інфармацыю ад фонду салідарнасці, які не мае рэгістрацыі ў Беларусі. Гэта стала падставай для блакіроўкі самага буйнога інфармацыйнага рэсурсу краіны.

19 мая з гомельскай калоніі вызвалілі журналістку TUT.by **Кацярыну Барысевіч**, якая была за кратамі паўгода. Крымінальную справу ў дачыненні да Кацярыны Барысевіч і доктара **Арцёма Сарокіна** завялі 19 лістапада 2020 года. Іх абвінавацілі ў выдаванні медыцынскай таямніцы, што, на думку Генеральнай пракуратуры, пацягнула цяжкія наступствы. Раней, 13 лістапада 2020 года, Барысевіч апублікавала артыкул, у якім са спасылкай на медыцынскія дакументы і каментар доктара сцвярджалася, што ў крыві Рамана Бандарэнкі не было выяўлена этанолу. Нагадаем, пасля смерці Рамана Бандарэнкі ў Беларусі прайшлі масавыя пратэсты супраць гвалту.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота TUT.by.

Кацярына Барысевіч на волі пасля вызвалення з гомельскай калоніі.

### Канфлікт Ізраіля і ХАМАС

6 мая пачаліся сутычкі паміж палесцінскімі і ізраільскімі дэманстрантамі, у яго ўмяшалася паліцыя Ізраіля. Канфлікт разгарэўся з-за запланаванага рашэння Вярхоўнага суда Ізраіля аб высяленні палесцінцаў з раёна Усходняга Іерусаліма. На працягу некалькіх дзён сутычкі працягваліся, ізраільская паліцыя вымушана штурмавала галоўнае свяшчэннае месца мусульман мячэць Аль-Акса. У адказ на гэта ад 10 да 12 мая ХАМАС (палесцінскі ісламісцкі рух, які правіць у сектары Газы) і «Ісламскі джыхад» (палесцінскі ісламісцкі ваенізаваны рух) выпусцілі па Ізраілю 1500 ракет. Ізраіль адказаў авіяцыйнымі ўдарамі па Газе.

– Яны напалі на нашу сталіцу, запускалі ракеты па нашых гарадах. Яны заплацяць і працягнуць дорага плаціць. Апошняе слова яшчэ не сказанае, – заявіў прэм'ер-міністр Ізраіля **Біньямін Нетаньяху**.

На 19 мая падчас канфлікту забіта больш за 300 чалавек, паранена больш за дзве тысячы чалавек.

**Паводле bbc.com.**

### Украінскага дэпутата абвінавацілі ў дзяржаўнай здрадзе

Пячэрскі суд ва Украіне адправіў народнага дэпутата **Віктара Медведчука** пад дамашні арышт. Яго абвінавачваюць у дзяржаўнай здрадзе і парушэнні законаў і звычаяў вайны.

Медвядчук, якога называюць кумам Пуціна, лічыць справу супраць сябе палітычна матываванай.

**Паводле unian.net.**

### Справу Ціханоўскага, Статкевіча і Лосіка будуць разглядаць у Гомелі

Справу Сяргея Ціханоўскага, Мікалая Статкевіча і іншых фігурантаў гэтай крымінальнай справы будзе разглядаць Гомельскі абласны суд, паведамляецца ў пастанове Вярхоўнага суда.

Ціханоўскага абвінавачваюць у арганізацыі масавых беспарадкаў, распаўсюджанні групай асоб па папярэдняй змове матэрыялаў, якія накіраваныя на распальванне сацыяльнай варожасці да прадстаўнікоў улады і сілавых органаў, пагрозы ў адрас старшыні Цэнтрвыбаркама, арганізацыі групавых дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак.

Статкевіча абвінавачваюць у арганізацыі масавых беспарадкаў, а Лосіка – у распальванні варожасці да прадстаўнікоў улады і сілавых структур і арганізацыі беспарадкаў.

**Паводле court.gov.by.**

### Буйныя нафтавыя кампаніі ў маі перасталі пастаўляць нафту на «Нафтан»

Буйныя расійскія нафтавыя кампаніі з пачатку мая не пастаўляюць нафту на Наваполацкі НПЗ, сведчыць статыстыка, з якой азнаёміўся «Інтэрфакс».

Асноўнымі грузаадпраўшчыкамі з'яўляюцца «Лукойл», «Газпрам нафта» і «Раснафта».

19 красавіка Мінфін ЗША адмяніў мараторый на санкцыі ў дачыненні да канцэрна «Белнафтахім», яго гандлёвага прадстаўніцтва ў ЗША і сямі прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у яго склад.

**Паводле interfax.by.**

### У Баранавічах разбіўся ваенны самалёт

19 мая пад Баранавічамі пацярпеў крушэнне ваенны самалёт Як-130 Лідскай штурмавой авіябазы. Самалёт выконваў вучэбна-трэніровачны палёт, падчас якога экіпаж выявіў няспраўнасць. Лётчыкі адвялі самалёт ад жылых дамоў, дзе катапультаваліся, але загінулі.

Палёт выконвалі камандзір звяна вучэбна-баявой эскадрыллі маёр **Андрэй Нічыпарчык** і лётчык звяна лейтэнант **Мікіта Куканенка**.

**Прэс-служба Міністэрства абароны.**

### Лукашэнка падпісаў закон, па якім міліцыя можа прымяняць баявую тэхніку пры спыненні масавых беспарадкаў

Аляксандр Лукашэнка падпісаў закон «Аб змяненні законаў па пытаннях нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь».

Дакумент уносіць змены ў законы, якія рэгулююць дзейнасць органаў унутраных спраў і шэрагу іншых сілавых органаў і ваенізаваных арганізацый. Новым законам удакладняюцца ўмовы і межы прымянення фізічнай сілы, спецыяльных сродкаў, зброі, баявой і спецыяльнай тэхнікі. Прадугледжваецца, што супрацоўнікі сілавых органаў не нясуць адказнасці за шкоду, прычыненую ў выніку іх прымянення, калі такое прымяненне ажыццяўлялася ў адпаведнасці з патрабаваннямі заканадаўчых актаў, якія рэгулююць дзейнасць гэтых органаў. Органы ўнутраных спраў надзяляюцца правам прымяняць баявую і спецыяльную тэхніку пры спыненні масавых беспарадкаў.

Канкрэтызуюцца падставы для правядзення асабістага дагляду грамадзян, дагляду іх рэчаў, транспартных сродкаў. Супрацоўнікам органаў унутраных спраў даецца права забараняць грамадзянам рабіць відэазапісы, кіна- і фотаздымкі для правядзення працэсуальных дзеянняў, забеспячэння грамадскага парадку, асабістай і грамадскай бяспекі; весці гука- і відэазапіс навакольнага асяроддзя, у тым ліку грамадзян пры выкананні службовых абавязкаў.

**Паводле БелТА.**

# Маладзечанскія футбалісты перамаглі ў першым матчы сезона другой лігі

**Футбалісты «Маладзечна» перамаглі ў першай сустрэчы ў чэмпіянаце другой лігі. Сапернікам маладзечанцаў сталі гульцы дзяржынскага «Адзінства».**

Першы ўдар у створ варотаў нанеслі сапернікі маладзечанцаў на першых хвілінах. Аднак гэта быў адзін з нешматлікіх выхадаў футбалістаў «Адзінства» да варотаў ФК «Маладзечна». Гульцы пад кіраўніцтвам галоўнага трэнера **Сяргея Дараховіча** актыўна прэсінгавалі ўвесь час у першай палове гульні.

У першым тайме маладзечанскія футбалісты праводзілі амаль увесь час на палове поля саперніка, спрабуючы зрабіць перавагу ў сустрэчы яшчэ большай.

На 9-й хвіліне **Раман Вінцукоўскі** пазмагаўся ў варатарскай зоне і забіў гол.

На 20-й хвіліне **Сяргей Кошаль** забіў галавой, тым самым павялічыў разрыў у ліку – 2:0. Праз некалькі хвілін Кошаль страціў магчымасць дадаць у скарбонку дубль: у яго літаральна выбілі мяч з-пад ног. Вышэй варотаў з добрай пазіцыі прабіў **Сяргей Булынёнак**.

На 40-й хвіліне Сяргей Кошаль забіў другі мяч з навеса Булынёнка.



Раман Вінцукоўскі ў атацы.

Каманды завяршылі першы тайм з лікам 3:0 на карысць «Маладзечна».

Пасля перапынку тэмп гульні змяніўся, маладзечанцы працягнулі прэсінгаваць, але на контратацы дзяржынскія футбалісты змаглі адзначыцца. **Іраклі Маградзэ** забіў галавой у штрафной зоне маладзечанцаў – 3:1. Пасля гэтага ў «Адзінства» былі яшчэ два моманты, але футбалісты білі міма.

Выбух у маладзечанскіх футбалістаў адбыўся пасля 20 хвілін пачатку другога тайма. На 66-й хвіліне мяч у вароты Дзяржынска забіў **Дзмітры Сярогін** – 4:1. А на 67-й лік у гульні да 5:1 павялічыў **Аляксей Лотыш**. Шосты гол забіў **Мікіта Сыракваш**, які выйшаў на замену.

Напрыканцы матча, на 89-й хвіліне, яшчэ адным голам адзначыўся Дзмітры Сярогін – **7:1**. Гэты лік на табло стаў фінальным у сустрэчы.

Галоўны трэнер «Маладзечна» Сяргей Дараховіч пасля матча ў інтэрв'ю прэс-службе сказаў, што гульня праходзіла з поўнай перавагай маладзечанскіх футбалістаў.

– Заканамерна перамаглі. Лік на табло адлюстроўвае тое, што адбывалася на полі, – лічыць трэнер.

«Маладзечна» знаходзіцца на пятым месцы ў турнірнай табліцы з дзесяці.

Наступны матч маладзечанская каманда правядзе ў Кубку Беларусі. 22-23 мая маладзечанцы згуляюць супраць дзяржынскага «Фалько».

**Настасся УТКІНА.**

## Віляйчук выйграў залаты медаль у камандным заліку на чэмпіянаце Еўропы па скачках на батуце

Мужчынская зборная па скачках на батуце выйграла залатыя медалі ў камандным заліку на чэмпіянаце Еўропы, што прайшоў напрыканцы красавіка ў Сочы. Віляйчук **Іван Літвіновіч** таксама ўзяў залаты медаль.

У складзе мужчынскай зборнай у турніры былі Іван Літвіновіч, **Алег Рабцаў**, **Уладзіслаў Ганчароў**, **Аляксей Дудараў**.

Яны зарабілі цалкам 183,805 бала. Іван Літвіновіч выканаў праграму на 62,885 бала.

**Настасся УТКІНА.**

## «Смаргонь» саступіла мінскаму «Дынама»

14 мая «Смаргонь» гуляла супраць мінскага «Дынама» ў 9-м туры чэмпіянату вышэйшай лігі.

Смаргонцы не забілі галоў, а сапернік адзначыўся двума мячамі. На 9-й хвіліне забіў **Аблай Мбэнг**. У другім тайме, на 66-й хвіліне сустрэчы, адзначыўся **Уладзіслаў Ложкін**. Мбэнг і Ложкін забілі з перадачы **Андрэя Бацулы**.

Гульня скончылася з лікам **2:0**, «Смаргонь» саступае ў чарговым матчы.

Пасля дзевяці тураў смаргонскія футбалісты знаходзяцца на перадапошнім радку ў турнірнай табліцы.

22 мая смаргонцы згуляюць супраць жодзінскага «Тарпеда-БелАЗ» на стадыёне ў Смаргоні. Гульня пачнецца ў 14:30.

**Настасся УТКІНА.**

## «Астравец» на першым месцы ў Гродзенскім дывізіёне

У Гродзенскім дывізіёне чэмпіянату другой лігі «Астравец» правёў дзве гульні. У матчах астраўчане дамагліся перамог. У 2-м туры, 15 мая, «Астравец» згуляў супраць гродзенскай «ЖКГ».

Астравецкія футбалісты перамаглі сапернікаў – **4:0**. Усе галы былі забітыя ў другім тайме. Дублем адзначыўся **Аляксей Хадневіч**, па адным мячы забілі **Павел Лаўгач** і **Дзмітры Купнеўскі**.

«Астравец» займае першае месца ў турнірнай табліцы.

**Настасся УТКІНА.**

## «Ашмяны» перамаглі «Белую Русь»

У другім туры другой лігі ў Гродзенскім дывізіёне прайшла гульня «Ашмянаў» і дзятлаўскай «Белай Русі». 15 мая футбалісты камандаў сустрэліся ў Дзятлаве. У першым тайме галы забівалі прадстаўнікі ашмянскай каманды: **Уладзіслаў Цішкоў**, дублем адзначыўся **Захар Захарэвіч**. Пасля перапынку гол забіў **Ягор Грыцук** з «Белай Русі», а пасля Захарэвіч павялічыў лік «Ашмянаў» і запісаў сабе хет-трык. Гульня скончылася з лікам **4:1**.

«Ашмяны» займаюць пятае месца ў турнірнай табліцы. У трэцім туры, 27 мая, «Ашмяны» згуляюць супраць «Астраўца».

**Настасся УТКІНА.**

## Беларусь пазбавілі права правесці этап Кубка свету па біятлоне

Міжнародны саюз біятланістаў вырашыў не праводзіць у 2022 годзе этап Кубка свету па біятлоне ў Мінску, паведамілі ў прэс-рэлізе арганізацыі 16 мая.

Спаборніцтвы ў Мінску павінны былі адбыцца 3-6 сакавіка, але ў Міжнародным саюзе перагледзелі графік стартаў сезона-2021/22.

– Рашэнне аб пераносе мерапрыемства было прынятае выканаўчым камітэтам у святле бягучай сітуацыі ў Беларусі і для таго, каб арганізацыйныя камітэты, нацыянальныя федэрацыі і іх каманды змаглі скласці свае планы, – гаворыцца ў прэс-рэлізе.

Этап, які перанясуць з Раўбічаў, пройдзе ў фінскім Кантыалахці.

**Паводле biathlonworld.com.**

## «Вілія» саступіла ў другім матчы запар

16 мая вілейская каманда згуляла з чэрвеньскім «Коласам» у рамках чэмпіянату другой лігі. Вілейчукі саступілі з лікам **0:1**. Гулец з Чэрвеня **Антон Радзюк** адзначыўся дакладным пенальці на 71-й хвіліне сустрэчы.

Нагадаем, гэта другое паражэнне «Віліі». У першым туры вілейчукі прайгралі «Смалявічам» 3:1.

**Настасся УТКІНА.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Хуткі алюр, бег каня наўскач.
2. Зачатак вышэйшых раслін, які складаецца з зародка і абалонкі.
4. Шырокая праезджая дарога.
6. Галіна гаспадаркі, звязаная з перавозкай людзей і грузаў, а таксама сродкі для такой перавозкі.
7. Прадукт харчавання, які атрымліваецца з кіслага малака пры аддзяленні ад яго сыроваткі пасля адтаплівання.
8. Мінеральнае вадкае масляністае гаручае рэчыва звычайна цёмна-бурага колеру, якое ўжываецца як паліва, а таксама як сыравіна.
10. Стан крайняй безнадзейнасці, упадку духу з прычыны гора, непрыемнасці; роспач.
14. Ежа з агародніны, круп да рыбных і мясных страў.
15. Вал з разнастайных груваcткіх прадметаў, прызначаны для абароны ў часе вулічных баёў.
16. Застольная прапанова выпіць у гонар каго-небудзь, за што-небудзь.
17. Доўгая жаночая сукенка для язды на конях.
19. Згода на што-небудзь, права зрабіць, выканаць.
22. Адзінка вымярэння часу, якая раўняецца 1/24 сутак.
23. Пляцоўка з поручнямі, прыбудаваная знадворку да сцяны дома і злучаная дзвярамі з унутраным памяшканнем.
25. Бацькаў або матчын бацька.
27. Нізкі ложак з дошак на козлах.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
3. Пахілая паверхня гары, берага.
5. Цукрысты сок, які выдзяляецца нектарнікамі вышэйшых раслін.
9. Запаленне слізістай абалонкі носа, якое суправаджаецца слізіста-гнойнымі выдзяленнямі і чханнем.
11. Няворaная зямля, густа парослая травой.
12. Нізкае топкае месца, грузкае балота.
13. Выступленні прыезджага артыста або мастацкага калектыву.
15. Стыхійнае паўстанне, мяцеж.
18. Доўгія валасы на шыі некаторых жывёл.
20. Імклівы напад на пазіцыі праціўніка.
21. Убаку ад іншых.
23. Вершаваны твор асобай формы на легендарную ці гістарычную тэму.
24. Наперадзе, у пэўным аддаленні ад пэўнага месца.
26. Глыбіні зямлі, месцы пад зямной паверхняй, а таксама тое, што там змяшчаецца.
28. Работнік, які падтрымлівае чысціню і парадак на двары і на вуліцы каля дома.

## Адказы на крыжаванку з №20

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Маналог. 5. Макет. 6. Рухавік. 7. Дэкальтэ. 9. Чайнворд. 10. Эпапея. 14. Чапяла. 15. Дэкор. 16. Есці. 17. Напор. 20. Экіпаж. 21. Рулетка. 23. Юстыцыя.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Мінус. 2. Манера. 3. Дэпо. 4. Оптыка. 6. Радасць. 8. Эстрада. 10. Эпідэмія. 11. Эрозія. 12. Сваякі. 13. Маланка. 14. Чаранок. 18. Раён. 19. Дошка. 22. Чужы. 24. Бальзам.

## ГАРАСКОП НА 21-27 МАЯ

**АВЕН.** Спакайней за ўсё вы будзеце адчуваць сябе ў «ціхай вадзе», удалечыні ад шуму і мітусні. Ні пра што не турбуйцеся – усё патрэбнае прыйдзе да вас само і без лішніх высілкаў з вашага боку.

**ЦЯЛЕЦ.** Трэба будзе шмат працы, у тым ліку і дамашняй. Аднак памятайце: залішняя стараннасць можа нашкодзіць здароўю. Таму зоркі настойліва рэкамендуюць хоць часам адпачываць. Больш часу праводзьце з сябрамі.

**БЛІЗНЯТЫ.** Нягледзячы ні на што, вы ўсюды і ва ўсім будзеце ў выйгрышы і на вышыні. Не ўпусціце свой поспех! З'явяцца новыя перспектывы ў кар'еры, найлепшым чынам складуцца фінансавыя справы. Будзьце больш уважлівыя ў пытаннях здароўя – ёсць рызыка падхапіць захворванне.

**РАК.** Зоркі не абяцаюць лёгкага жыцця. Спатрэбіцца шмат сіл і энергіі на падтрыманне агню ў дамашнім ачагу. Адначасова давядзецца вырашаць складаныя рабочыя праблемы і ўладжваць канфлікты з калегамі.

**ЛЕЎ.** Каханне, творчасць, новыя карысныя знаёмствы, каштоўныя матэрыяльныя набыткі – і ўсё гэта дзякуючы ўласным намаганням і талентам. Адкрыюцца таксама магчымасці для наладжвання дзелавых сувязяў.

**ДЗЕВА.** Рыхтуйцеся шмат і напружана працаваць. Аднак годнай аплаты за працу давядзецца пачакаць. Таму не спяшайцеся дзяліць шкуру незабітага мядзведзя.

**ШАЛІ.** У зорак вялікія планы на вас. Чакайце ўсеагульнай увагі і любові. Сябры і знаёмыя прыгатуюць вам шмат прыемных сюрпрызаў. З вашага ж боку спатрэбіцца мудрасць, каб хутка вырашыць магчымыя спрэчныя пытанні і дома, і на працы.

**СКАРПІЁН.** Пазбягайце непрыемных размоў з блізкімі людзьмі і бурнага высвятлення адносін з калегамі. Будзьце ўважлівыя да свайго здароўя. Не налягайце на шкодную ежу і не пераядайце.

**СТРАЛЕЦ.** З фінансамі можаце зайсці ў тупік, таму ад буйных пакупак варта адмовіцца, ды і ўвогуле старайцеся дакладна планаваць бюджэт. Неспрыяльны час для здачы экзаменаў і прасоўвання навуковых ідэй.

**КАЗЯРОГ.** Першая палова тыдня – спрыяльны перыяд для вырашэння грашовых пытанняў, а таксама для супрацоўніцтва з замежнымі партнёрамі. Дзелавыя сустрэчы і паездкі апынуцца вельмі ўдалымі і перспектыўнымі. У другую палову тыдня вы рызыкуеце стаць ахвярай падману: будзьце напагатове!

**ВАДАЛЕЙ.** Адчуеце прыліў свежых сіл, аптымізму і на былыя праблемы будзеце глядзець з гумарам. Вы энергічныя, паспяховыя, прадпрымальныя – у вас усе шанцы кардынальна змяніць жыццё да лепшага.

**РЫБЫ.** Цяпер вы відавочна не ў лепшай форме. Толькі не паддавайцеся нудоце і старайцеся не рэагаваць на крытыку ў свой адрас. Акуратней абыходзьцеся з грашыма: верагодныя непрадбачаныя марнаванні на паездкі, рамонт, лячэнне. У дадзены перыяд не выключаныя канфлікты, збольшага выкліканыя вашымі памылкамі.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 7 | | 2 | | | | 8 |
| 2 | | 5 | | | | 3 | 9 | |
| | | | 3 | | | 2 | | 7 |
| | 9 | | | | 2 | | 5 | 1 |
| | | | 8 | | 7 | 6 | | |
| | 7 | | 1 | | 5 | 8 | | |
| 5 | | | | 1 | 9 | 4 | | |
| | | 4 | | | | 1 | | |
| | | 6 | | | | 9 | 3 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by


Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

## «Гальшанскі замак» адмянілі, у Маладзечне пройдзе «Ноч музеяў»

**Фестываль «Гальшанскі замак» адмянілі за некалькі дзён да яго пачатку. Прычына адмены не паведамляецца. Фестываль сярэднявечнай культуры павінны быў прайсці ля сцен Гальшанскага замка 22 мая. На пачатку месяца ў замку адкрылі аднаўленую вежу, у якой цяпер месціцца музей.**

Нагадаем, «Гальшанскі замак» не праводзяць другі год запар. У мінулым годзе фестываль адмянілі праз пандэмію каронавіруса.

21 мая ў Маладзечне пройдзе «Ноч музеяў». Мінскі абласны краязнаўчы музей адчыніць дзверы з праграмай «Усё жыццё – гульня». Пачатак у 17:30.

> «Ноч музеяў» – гэта міжнародная акцыя, прымеркаваная да Міжнароднага дня музеяў, падчас якой можна паглядзець музейныя экспазіцыі ноччу.

Асноўная мэта акцыі – паказаць рэсурс, магчымасці, патэнцыял сучасных музеяў, прыцягнуць у іх моладзь.

**Аддзел інфармацыі.**



Графіка Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

## Чытайце праз тыдзень:

- Колькі выпускнікоў выйдзе сёлета са школ і гімназій? Ці будуць у рэгіёне раённыя выпускныя з шэсцямі і канцэртамі?

## 22 мая, субота

**Вецер:** паўднёвы, 5-7 м/с




Усход 4.56
Захад 21.22
Даўжыня дня 16.26

Усход 15.34
Захад 3.44
Месяц расце

Паводле rp5.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Як вы гатуеце шашлык?

Сезон шашлыкоў ужо даўно наступіў, таму «Рэгіянальная газета» вырашыла запытацца ў нашых чытачоў іх любімыя рэцэпты смачных шашлыкоў. Калі ў вас ёсць такі рэцэпт, то вы можаце падзяліцца з намі, даслаўшы на электронную пошту regionnews@rh.by.



**Уладзімір:**
– Трэба ўзяць мяса, нарэзаць і нанізаць на шампуры, пасаліць і паперчыць, абгарнуць сурвэткай. На мангале пастаянна круціць шампуры, каб мяса хутчэй схапілася скарыначкай. У каццялок нарэзаць цыбулю кольцамі, туды закінуць гатовае мяса з шампуроў, выціснуць лімоннага соку. Энергічна патрэсці і на 2-3 хвіліны – на вуголле.



**Дар'я:**
– Сакрэт просты: з мяса для шашлыкоў бяром толькі шыю. Спачатку солім, перчым, а пасля дадаём алей.



**Ігар:**
– У наш час без шашлыкоў ніяк. Скажу шчыра, у гэтым мерапрыемстве падрыхтоўкай займаецца жонка, мне давяраюць толькі дровы, вугалле і назіранне падчас прыгатавання. Не скажу, што зусім бесталковы, але навошта двойчы вынаходзіць ровар, калі ёсць спецыяліст. Вось як!



**Ірына:**
– Падабаюцца шашлыкі. Летам з сяброўкамі кожны тыдзень сустракаемся і смажым шашлыкі. Асаблівага рэцэпту прыгатавання няма. Больш зеляніны і цудоўны настрой!



**Марына:**
– Вельмі любім шашлыкі, і ўсёй сям'ёй чакаем вясны і лета. Але часцяком, з-за працы і часу, купляем гатовую прадукцыю. Але калі гатуем самі, то да мяса дадаём шмат розных спецый, цыбулю і памідоры кольцамі, маянэз.



**Марына**
– Шашлыкі люблю. Лепшы рэцэпт – соль, перац і крыху вады.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№21 (1360) 21.05.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 833. Падпісана ў друк у 9.00 20.05.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**




Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.